

# Беларус

**75-ГОДЗЬДЗЕ!**
Менск, 25 сакавіка 1918 г.
**«Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнаю і вольнаю дзяржавай».**
**Рада БНР**

**№ 401 Травень 1993**
Год выд. 42

**BIELARUS** / Belarusan Newspaper in the Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
Address: P. O. Box 178, Jamaica, N.Y. 11432, U.S.A. Price $2.50

## ШТО СКАЗАЎ У МІРЫ ПРЭМ'ЕР БЕЛАРУСІ ПРА НАЦЫЯНАЛЬНУЮ СЬВЯДОМАСЬЦЬ?

Спачатку — кароценькі ўступ, а тады — неспадзяванае пытаньне: каторамі варыянту выказваньняў Старшыні СМ РБ Вячаслава Кебіча пра нацыянальную сьведамасьць беларусаў даваць веры: таму, што ў замежнай брашуры, ці таму, што на старонках газэты «Советская Белоруссия»?

У парадку ўступу нагадаем, што 21 сьнежня 1992 г. Старшыня Савету Міністраў Беларусі Вячаслаў Кебіч выступіў у г.п. Мір з прамовай на сустрэчы з творчай інтэлігенцыяй рэспублікі. Тэма прамовы фундамэнтальная: «Эканоміка, маральнасьць, культура — падмурак нашай дзяржаўнасьці».

Кебічавай прамове ў Міры ўрад надаў вялікага значэньня і ня толькі апублікаваў яе ў рэспубліканскіх газэтах (гл. «Звязда» і «Советская Белоруссия» за 23 сьнежня), але, у форме дабротна выдадзенай, ілюстраванай Мірскім замкам і партрэтам спадара Кебіча, брашуры, пашырыў прамову па сьвеце ў беларускім арыгінале і ангельскім перакладзе. Адсюль і асаблівая ўвага да таго, як прэм'ер Беларусі разумее падмурак беларускае дзяржаўнасьці — нацыянальную сьведамасьць беларусаў.

Устанавіць адказ на гэтае пытаньне, як выяўляецца, ня так проста, бо беларускі і расейскі тэксты розьняцца адзін ад аднаго ў прынцыпова важных акцэнтах. Для параўнаньня мы бярэм з замежнае брашуры беларускі арыгінал і з «Советской Белоруссии» расейскі варыянт. І так (выдзяленыя слоў загаловачнымі літарамі наша):

*1. Арыгінал:* «Нацыянальне ў свядомасці не можа СКЛАСЦІСЯ ў выніку добрых пажаданняў».

*Расейскі варыянт:* «Национальное в сознании не может и НЕ ДОЛЖНО УТВЕРЖДАТЬСЯ за счет благих пожеланий».

*2. Арыгінал:* «З тым арсеналам нацыянальнага, які мы атрымалі ў спадчыну, нам НЯЛЁГКА фарміраваць нацыянальную свядомасць, пераконваць нашых сучаснікаў і нашчадкаў, што мы маем гісторыю нашай дзяржаўнасці і што мы не якія-небудзь іваныбязродзічы»

*Расейскі варыянт:* «С таким СКУДНЫМ арсеналом национального, который мы получили в наследство ВО ВСЕХ СФЕРАХ ДУХОВНОЙ ЖИЗНИ, НАМ ВРЯД ЛИ УДАСТСЯ сформировать национальное сознание, ВРЯД ЛИ УДАСТСЯ убедить наших современников и потомков, что у нас есть собственная история, есть история нашей государственности и что мы не просто иваны, не помнящие родства».

*3. Арыгінал:* «Той факт, што сёння многія беларусы не ўмеюць чытаць па-беларуску, а часам саромеюцца гаварыць на роднай мове і не могуць перадолець пакуль што гэты сорам, яшчэ раз пацвярджае, ЯК РАЗБУРЫЛІ МЫ СВОЙ НАЦЫЯНАЛЬНЫ МЕНТАЛІТЭТ».

*Расейскі варыянт:* «Тот факт, что сегодня многие беларусы не умеют читать, а порой и стыдятся говорить на родном языке и не могут преодолеть пока этот стыд, лишний раз подтверждает, СКОЛЬ ОГРОМНЫЕ ПОТЕРИ МЫ ИМЕЕМ В НАШЕМ НАЦИОНАЛЬНОМ МЕНТАЛИТЕТЕ».

Тут нельга закончыць традыцыйным «камэнтары лішнія», бо справа нацыянальнае сьведамасьці і рознае шальмаваньне яе знаходзіцца ў самым цэнтры працэсу беларускага дзяржаўнага будаўніцтва. Таму да прыведзеных вышэй трох разыходжаньняў — тры заўвагі.

1. Гэта вельмі нядобра, што Кебічавы памагатыя дазваляюць сабе (самахоць?) заяўляць беларусам, што нацыянальнае ў сьвядомасьці ня толькі «не можа скласціся ў выніку добрых пажаданняў», але і «не должно утверждаться».

2. Так, беларусам «НЯЛЁГКА» фармаваць нацыянальную сьвядомасьць са сваім арсеналам нацыянальнага. Але яшчэ цяжэй, калі гэты арсэнал будуць абзываць на кожным кроку «СКУДНЫМ» і прыгаворваць пры гэтым: «ВРЯД ЛИ УДАСТСЯ СФОРМИРОВАТЬ... ВРЯДЛИ УДАСТСЯ УБЕДИТЬ». Даволі знаёмае карканьне, што гучыць ня толькі са старонак такіх беларусаедных публікацыяў, як «Время и мы», «Политика, позиция, прогноз», але і ў тэй-жа «Советской Белоруссии», якая часта сваю антыбеларускасьць намагаецца маскаваць напускным аб'ектывісцкім далікацтвам.

3. Пра мэнталітэт беларускай нацыі. У ім ня толькі «ОГРОМНЫЕ ПОТЕРИ», а яго татальна «РАЗБУРЫЛІ» і перашкаджаюць, як толькі могуць, адбудоўваць яго. Прыклады сабатажу працэсу адроджваньня беларускага мэнталітэту і беларускай дзяржаўнасьці можна падаваць у бесканечнасьць. Тут хопіць аднаго, які сьветчыць пра вельмі няцікавую ролю ў гэтым адраджэньні ўраду сп. Кебіча, наўсуперак ягоным заявам у Міры. Справа рэалізацыі закону аб дзяржаўным статусе беларускай мовы. Якая мізэрная сума бюджэтных сродкаў ні адводзіцца на ўжыцьцёўленьне закону аб мовах, дык і тую ў канцы году ўрад ухітраецца або сьпісваць, або аддаваць на іншыя мэты (хай сабе й карысныя).

Кожнаму беларусу, што працуе над адбудовай РАЗБУРАНАГА мэнталітэту свае нацыі, было балюча прачытаць у «Зьвяздзе» за 16 сакавіка сёлета тлумачэньне, адкуль у Згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына» раптам зьявіліся грошы. А вось адкуль: «Мы прасілі ў свой час крэдыт. Нам не далі. А пасьля Кебіч падпісаў загад перакінуць ГРОШЫ ЗЬ ДЗЯРЖАЎНАЙ ПРАГРАМЫ РАЗЬВІЦЬЦЯ

*(Працяг на 2-й ст.)*

## ПАСОЛЬСТВА БЕЛАРУСІ Ў ВАШЫНГТОНЕ

20 красавіка 1993 году. Цёплы вясновы дзень, можа нават крыху зацёплы; такія дні бываюць, здаецца, толькі ў Вашынгтоне. На шырокай прасторнай магістралі, авэню Нью-Гампшыр, усьцененай дрэвамі, зь імпазантнымі ўрадавымі будынкамі ды пасольствамі розных краінаў, пры нумары 1619 разьмясьцілася Пасольства Рэспублікі Беларусі.



*Будынак пасольства Беларусі:* 1619 New Hampshire Ave. N.W., Washington, D.C. 20009.

Пад вечар, перад прыгожым старынным трохпавярховым гарадзкім асабняком, з шыльдай з Пагоняй і з адпаведнымі надпісамі па-беларуску і па-ангельску, пачалі зьбірацца людзі. Тут і беларусы-амэрыканцы, і землякі зь Беларусі, прадстаўнікі ўрадавых колаў як амэрыканскіх, гэтак і беларускіх, розных міжнародных арганізацыяў, людзі бізнэсу, мэдыцыны, госьці з другіх амбасадаў і прадстаўніцтваў. Людзі ня штодзённыя, бо й нагода ня штодзённая — урачыстае адкрыцьцё будынку амбасады Беларусі ў Амэрыцы. Людзі зьбіраюцца, знаёмяцца, частуюцца, аглядаюць будынак, а будынак сапраўды адпаведны: у сэрцы Вашынгтону, добрага памеру, салідны, утульны.

А 7:15 усе сабраліся перад будынкам для афіцыйнай цырымоніі падняцьця беларускага сьцягу пры пасольстве. Цяжка перадаць пачуцьцё, якое ахапіла нас, беларускіх эмігрантаў, калі мы глядзелі, як паволі паднімаўся па машце наш бел-чырвона-белы сьцяг — сьцяг, для якога мы гэтак шмат уклалі сілаў, каб ён лунаў у вольным сьвеце. Хочацца думаць, што і ў гэтай гістарычнай падзеі ёсьць частка нейкага нашага ўкладу. З другога боку, суцяшальна й бачыць, што робіцца гэта ўжо паза намі. Як нехта трапна заўважыў: «Вось бачыш, вісіць наш сьцяг, і ня мы яго павесілі».

У прамове міністра замежных спраў



*Мамэнт узьняцьця сьцягу. Фота Васіля Мельяновіча.*

сп. Пётры Краўчанкі ды выступленьні прадстаўніка амэрыканскага ўраду зь Дзяржаўнага Дэпартаманту сп. Строба Талбота была добра адзначаная важнасьць гэтай нагоды — адчыненьне кавалачка Беларусі на амэрыканскай зямлі. Сп. Талбот гэтаксама нядвузначна падкрэсьліў, што Амэрыка гатовая супрацоўнічаць і дапамагаць ***дэмакратычнай*** Беларусі.




*Шыльда пасольства Рэспублікі Беларусь. Фота Надзі Кудасавай.*

Пасьля ўрачыстасьці, у нефармальнай гутарцы беларускіх эмігрантаў зь Міністрам Краўчанкам ды з прадстаўнікамі Беларускага Народнага Фронту было ўзьнята колькі важных і балючых пытаньняў: абаронны саюз з Расеяй, стан беларускай мовы на Беларусі (між іншага, на нашае вялікае зьдзіўленьне й заклапочанасьць, колькі прадстаўнікоў БНФ міжсобку размаўлялі па-расейску), ды іншыя пытаньні, што хвалююць эміграцыю. Гутарка была цікавая, хоць адказы на пытаньні былі не заўсёды задавальняючыя.

Вярталіся дахаты з дваякім пачуцьцём: пачуцьцём гордасьці за тое, што ў краіне Вашынгтона ёсьць нарэшце прадстаўніцтва незалежнай дзяржавы Беларусь, ды адначасна з адчуваньнем засьцярогі, страху, што будзе далей, як Беларусь выйдзе зь цяжкога эканамічнага й палітычнага крызісу.

**Зора Кіпель**

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 25 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 25 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## ПАРАДОКС З ВАЕННА-ПРАМЫСЛОВЫМ КОМПЛЕКСАМ

Якая частка прамысловасьці Беларусі занята ў ваеннай вытворчасьці? Колькі людзей працуе цяпер на прадпрыемствах ваенна-прамысловага комплексу (ВПК)? Дакладнага адказу на гэтае пытаньне няма, хоць і вельмі важна яго мець у сувязі зь цяперашнімі дэбатамі аб эканамічна-ваенным саюзе з Расеяй. Прыхільнікі гэткага саюзу застрашваюць сваіх апанэнтаў тым, што без Расеі ваенная прамысловасьць рэспублікі спыніцца ды пачнецца масавае беспрацоўе.

На пытаньне, колькі людзей занята на ваенных заводах Беларусі, у друку даюцца розныя адказы. 370 тысячаў, паводля аднае крыніцы ў лютым 1992 году. «Больш за 200 тысячаў», паводля Старшыні беларускага ўраду Вячаслава Кебіча ў красавіку сёлета. «Больш за 250 тысячаў», паводля народнага дэпутата Ўладзіміра Новіка ў красавіку сёлета. А народны дэпутат Уладзімір Грыбанаў (маёр, сакратар Камісіі ВС па нацыянальнай палітыцы) сказаў у гутарцы з карэспандэнтам праграмы «Радыёфакт» 9 красавіка сёлета: «Наш ваенна-прамысловы комплекс Беларусі прыкладна займае больш за палавіну ўсяго аб'ёму нацыянальнага прадукту». Беларускі ВПК, паясьніў Грыбанаў, «быў арыентаваны ня толькі на Расею, але на ўвесь Савецкі Саюз, які праводзіў мілітарысцкую палітыку. Ён быў арыентаваны на краіны народнай дэмакратыі, гэтак званыя краіны сацыялістычнага лягеру. Мы кармілі сваіх сяброў у Афрыцы і ў Амэрыцы — прадавалі туды нашую прадукцыю. Вось каму патрэбна была гэтая прадукцыя, якую вы (Грыбанаў зварачаецца тут да слухачоў, што працуюць на прадпрыемствах ВПК Беларусі — рэд. «Б-са») цяпер выпускаеце».

Пры гэткай вялікай ролі ваенна-прамысловага сэктару ў беларускай эканоміцы парадаксальна гучыць аргумэнт Генадзя Данілава, галоўнага дарадніка беларускага ўраду па справах нацыянальнае бясьпекі, што беларуская армія застанецца бяз зброі, калі рэспубліка не падпіша ваеннага саюзу з Расеяй. Маскоўскае агенцтва Інтэрфакс 15 красавіка сёлета перадало словы Данілава (пераклад з ангельскае): «Беларусь не вырабляе самастойна ніякае зброі патрэбнае для рэспублікі, і далучэньне да саюзу аб калектыўнай абароне разьвяжа гэтую і шмат якія іншыя праблемы». (FBIS-SOV, 16.04.93, 36).

### ЗША УЗНАГАРОДЖВАЮЦЬ БЕЛАРУСЬ

Тыдзень пасьля таго як Вярхоўны Савет Беларусі ратыфікаваў 4 лютага сёлета амэрыканска-савецкае пагадненьне аб скарачэньні стратэгічных узбраеньняў (START-I), урад Злучаных Штатаў прызнаў Беларусі статус найбольшага спрыяньня ў гандлі, г.зн., што на беларускія тавары будуць такія самыя тарыфы, як і на тавары іншых прыязных Амэрыцы дзяржаваў. Апрача гэтага, Злучаныя Штаты пабольшылі фінансавую дапамогу Беларусі з раней прызнаных 8,3 мільёна даляраў да 65 мільёнаў даляраў, адзначаючы гэтым, як было сказана ў ноце Дзяржаўнага Дэпартаманту, «сьмелыя і пазытыўныя крокі» Рэспублікі Беларусь у галіне ядзернага разззбраеньня.

### *«АДРАДЖЭНЬНЕ БЯЗЬ СЬПЕХУ»*

Папулярны французскі тыднёвік Le Mond diplomatique (8.III.93) зьмясьціў вялікі агляд палажэньня ў Беларусі пад заг. «Беларусь адроджваецца бязь сьпеху». Аўтар артыкулу, журналіст Эрляндс Калябўіг, даволі падрабязна, са спасылкамі на гістарычныя даты і на сучасную статыстыку, паказвае Беларусь, якая асьцярожна, улічваючы памылкі сваіх суседзяў і захоўваючы добрыя дачыненьні з Расеяй, шукае шляху ў будучыню.

Артыкул пачынаецца пераказам спрэчкі паміж беларускімі студэнтамі, зь якіх адзін выказваецца супраць беларускага нацыяналізму, але за дэмакратыю і за расейскую мову, а другі вінавацiць першага, што той ня дбае пра свае нацыянальныя інтарэсы.

У артыкуле падаецца шэраг выказваньняў беларускіх палітыкаў і дзеячоў: Станіслава Шушкевіча («Мы пераджываем дэрусыфікацыю, а не беларусізацыю»); Адама Мальдзіса (пра гістарычную запозьненасьць беларускага адраджэньня); Зянона Пазьняка (пра беларуска-летувіскі канфлікт, пра рэфэрэндум); Мітрапаліта Філарэта (пра каталікоў і вуніятаў); Аляксандра Дрэмава (пра ваенную прамысловасьць); Пятра Краўчанкі (пра арыентацыю на Эўропу) ды іншых асобаў.

Артыкул, незважаючы на некаторыя фактычныя недакладнасьці ў датах і статыстыцы, напісаны бесстаронньня і дае даволі разгорнуты абраз палажэньня ў сучаснай Беларусі.

**Я.Ж.**

## ЭКАНОМІКА: ХВАСЬЦІЗМ НУТРАНЫ І ЗАМЕЖНЫ

Менскі Беларускі інстытут дзяржаўнага будаўніцтва і заканадаўства апублікаваў «інфармацыйна-аналітычную запіску» пад заг. «Беларусь: палітыка і эканоміка» (датаваная 17.03.93). Аўтары запіскі, абапіраючыся на выказваньнях нямецкага друку й нямецкіх эканамістаў, пішуць, што «Нямеччына ўстрымаецца ад значных капіталаўкладаў у эканоміку рэспублікі». Прычына такой устрыманасьці — нясьмеласьць беларускага ўраду ў праводжаньні рэформаў, празьмерная арыентацыя на Расею.

Да падобнай высновы прыйшлі й амэрыканскія бізнэсмэны. Амэрыканскі часапіс East European Investment Magazine («Усходнеэўрапейскія капіталаўклады»), апытаўшы 620 прадстаўнікоў краін-членаў Эўрапейскага Банку Адбудовы й Разьвіцьця назваў сярод 27-х новых незалежных дзяржаваў пяць «найлепшых для заходніх інвэстыцыяў: Вэнгрыю, Польшчу, Чэхію, Расею й Казахстан.

Хвасьцізм беларускіх кансэрватараў у галіне рэформаў цягне за сабой і хвасьцізм інвэстыцыйны.

## БЕЛАРУСЬ НА ХРЫСЬЦІЯНСКА-ДЭМАКРАТЫЧНЫМ КАНГРЭСЕ

На 10-м міжнародным кангрэсе хрысьціянскае дэмакратыі, які адбыўся ў бэльгійскай сталіцы Брукэлі на пачатку сакавіка сёлета, узялі ўдзел два прадстаўнікі зь Беларусі: сп. П. Сілка, старшыня Беларускае Хрысьціянска-Дэмакратычнае Злучнасьці (дэлегат) і сп. Зянон Пазьняк, прадстаўнік Хрысьціянска-Дэмакратычнага Руху і старшыня БНФ (госьць).

Сп. Пазьняк выступіў на кангрэсе з прамовай у справе абароны правоў чалавека ў Рэспубліцы Беларусь і рэфэрэндуму. Ягонае выступленьне было сустрэта вельмі прыхільна. Сп. Пазьняк правёў спатканьні таксама па-за рамкамі кангрэсу зь лідэрамі хрысьціянска-дэмакратычнае фракцыі Эўрапейскага Парлямэнту ды з дэлегатамі розных сацыял-дэмакратычных рухаў.

Бэльгійская газэта La Libre Belgique (3.III) у сваім рэпартажы пра кангрэс адзначыла прысутнасьць на ім Беларусі, што сьветчыць аб тым, што выступленьне сп. Пазьняка зьвярнула на сябе ўвагу.

Кангрэс паказаў, што будучыня Эўропы стаіць за ідэаламі хрысьціянскае дэмакратыі й вольнага рынку.

Паводля сп. Пазьняка, Беларускі Народны Фронт, які тымчасам мае статус назіральніка ў Інтэрнацыянале Хрысьціянскай Дэмакратыі, станецца ягоным актыўным сябрам. Ёсьць надзея на тое, што ў выніку кантактаў, наладжаных беларускімі дэлегатамі, міжнародная хрысьціянска-дэмакратычная камісія наведае Беларусь, каб азнаёміцца з палажэньнем на месцы.

**Я. Жучка**

## БЕЛАРУСЬ НЕ ГАТОВАЯ ДА ЭЎРАПЕЙСКАЙ РАДЫ

Азнаёміўшыся з палажэньнем у Беларусі, Гэнэральны Сакратар Рады Эўропы сп-ня Катрын Лялюм'ер заявіла ў Менску 4 травеня што Беларусь «не гатовая да ўступленьня ў Раду Эўропы» (ЭР). Сярод названых ёю прычынаў — рэзкія разыходжаньні ўнутры парлямэнту, адсутнасьць канстытуцыі, агульнае ідэі прыватызацыі, свабоды друку, плюралізму думак ды свабодных выбараў на шматпартыйнай аснове.

Заяву на членства ў РЭ рэспубліка падала ў травені летась, неўзабаве па наведаньні Беларусі дэлегацыяй РЭ на чале з Дэйвідам Аткінсанам. Сп. Аткінсан сказаў тады ў Менску, што рэспубліка мае пэўную практыку з дэмакратыяй, а дзеля гэтага — і шансы на ўваход у РЭ. Аднак падзеі, што адбыліся ў міжчасе — асабліва заціск урадам свабоды доступу да сродкаў масавае інфармацыі, а таксама ўзмацненьне дзейнасьці камуністычных рэакцыянераў у Вярхоўных Савеце і па-за ім — не паспрыялі шанцам Беларусі на «вяртаньне ў Эўропу».

### ПІСЬМЕНЬНІКІ ЗЬНІШЧАНЫЯ ВАЙНОЮ І КАМУНІСТАМІ

У Доме літаратара ў Менску (як падала «Зьвязда», 13.02.93) усталявалі нарэшце, побач зь імёнамі пісьменьнікаў, што загінулі на вайне 1941-45 гадоў, імёны тых, каго панішчылі камуністы, калі русыфікавалі Беларусь. На першым сьпісе — 26 прозьвішчаў, на другім — 40. Лікі гэтыя трэба памятаць у сёньняшніх спрэчках вакол дамаганьняў з боку расейскіх вялікадзяржаўнікаў, каб расейская мова ізноў сталася афіцыйнай у Беларусі.

## *ШТО СКАЗАЎ ПРЭМ'ЕР...*

*(Заканчэньне зь 1-й ст.)*

МОВЫ на «Бацькаўшчыну». ГРОШЫ ПАД КАНЕЦ ГОДУ ЎСЯРОЎНА ДАВЯЛОСЯ-Б СЬПІСВАЦЬ. Такім чынам нам выдзелілі 1 мільён 200 тысяч. Мы закупілі ўсё патрэбнае, каб выдаць беларускія кнігі. За гэта дзякуй Саўміну».

Згуртаваньню «Бацькаўшчына» гэтым разам пашанцавала — можа таму, што сёлета адбываецца сусьветны зьезд беларусаў. Тым ня менш, той факт, што ўрад сьпісвае грошы, прызначаныя на Дзяржаўную праграму разьвіцьця мовы, паказвае лішні раз, наколькі абыякава ён ставіцца да справы аднаўленьня РАЗБУРАНАГА нацыянальнага мэнталітэту. Пра ягонае абыякавае стаўленьне вельмі добра ведаюць чыноўнікі, якімі акружаны сп. Кебіч. Таму яны так вольна сябе паводзяць з тым, што Старшыня ўраду гаворыць пра нацыянальную сьведамасьць беларусаў і што пасьля ад ягонага імя друкуецца ды рассылаецца па шырокім сьвеце.

Найбольш несамавітае (каб не сказаць мацней) у цэлай гэтай справе — тое, што ў брашуры пераклад у ангельскую мову зроблены не зь беларускага арыгіналу, а з расейскага варыянту. Значыцца, вонкаваму сьвету стан і праблема беларускае нацыянальнае сьведамасьці паказваецца ў горшым сьвятле, чым пра гэта сказаў у сваёй прамове ў Міры кіраўнік ураду рэспублікі.

Нью-Ёрк, травень 1993

**Янка Запруднік**

### *«БЕЛАРУСЫ ВЯРТАЮЦЦА Ў БЕЛАРУСЬ»*

Гэткай фразай канчаецца кароткі ўступ у сёлетнім лютаўскім нумары часапісу «Нёман», у якім зьмешчаны 2-гі выпуск матарыялаў пад заг. «Беларускае зарубежжа: гісторыя і сучаснасьць». У рубрыцы «Па старонках друку» зьмешчаныя «Нататкі пра ньюёркскую газэту 'Беларус'» і перадрукаваныя чатыры невялікія карэспандэнцыі зь «Беларуса» розных гадоў.

Іншыя матарыялы выпуску «Беларускае зарубежжа»: пераклады вершаў Натальлі Арсеньневай з нататкай пра яе, якую напісаў Максім Лужанін; частка раману Кастуся Акулы «Змагарныя дарогі» (у перакладзе Ўладзіміра Арлова): фотанарыс Анатоля Кляшчука пад заг. «Усе дарогі вядуць на Бацькаўшчыну»; інтэрв'ю з сакратаром часапісу «Полацак» Міхасём Белямукам пад заг. «Мы — адзін народ»; ілюстраваны рэпартаж пра міжнародную беларусаведную канфэрэнцыю ў Маладэчне, удзел у якой бралі прадстаўнікі эміграцыі; хроніка беларускага жыцьця паза межамі Беларусі.

Рэдакцыя «Нёмана» паведамляе: «У наступным нумары нашага «часапісу ў часапісе» мяркуецца надрукаваць «Амэрыканскі дзёньнік» ведамага беларускага вучонага з Санкт-Пецярбургу Валянтына Грыцкевіча, артыкул амэрыканска-беларускага вучонага і публіцыста, рэдактар газэты «Беларус», доктара Янкі Запрудніка «Беларускае дваранства і беларуская мова», этнасацыялягічны нарыс дырэктара Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва доктара Вітаўта Кіпеля «Грамадзка-арганізацыйная структура беларускай эміграцыі ў ЗША». Наперадзе знаёмства з творчасьцяй аднаго з самых актыўных літаратараў эміграцыі — Антона Адамовіча, са спадчынай Станіслава Станкевіча, з публікацыямі беларускай замежнай прэсы».

# 75-ГОДЗЬДЗЕ БНР

## ЧЫКАГА

Угодкі абвешчаньня незалежнасьці БНР былі адзначаныя Беларускім Каардынацыйным Камітэтам Чыкага (БККЧ) у нядзелю 21 сакавіка. Напярэдадні ўрачыстасьці, 19 сакавіка, у фае Цэнтру імя Дэйлі адкрылася дакумэнтальна-мастацкая выстаўка, прысьвечаная 75-годзьдзю БНР і 20-годзьдзю БККЧ. Выстаўка пратрывала да 26 сакавіка. На ёй былі паказаныя плякаты, фатаграфіі, дакумэнты, мастацкія вырабы, што адлюстроўвалі гісторыю Беларусі, культуру, выдатных дзеячоў, а таксама жыцьцё й дзейнасьць беларусаў Чыкага. Выстаўка, якая, паводле сьветчаньня кіраўнічкі выставак з гарадзкой управы, карысталася посьпехам была наладжаная стараньнямі сп-ні Веры Рамук пры дапамозе сп-ні Ірэны Пануцэвіч і сп. Нікадэма Жызьнеўскага.



*Амэрыканскі й беларускі сьцягі ў Дзень 25 сакавіка ля гарадзкой управы гор. Чыкага.*




*Фрагмэнт юбілейнай выстаўкі ў фае Цэнтру імя Дэйлі.*

У нядзелю 21 сакавіка ў беларускай каталіцкай царкве Хрыста Збаўцы а. Язэп Сыру адслужыў урачыстую літургію. Гаворачы казань пра значэньне Акту 25 Сакавіка, а. Сыру прывітаў прысутных пасла Беларусі пры ААН сп. Генадзя Бураўкіна і консула сп. Міхася Хвастова з Вашынгтону.

На ўрачыстай акадэміі, якая пачалася амэрыканскім гімнам, малітвай а. Сыру і супольным адсьпяваньнем «Магутны Божа», і якую вёў др. Роланд Талівэр, кароткім словам вітаў сьвяточную грамаду старшыня БККЧ сп. Міхась Сысой. Хвілінай маўчаньня была ўшанаваная памяць тых, хто аддаў сваё жыцьцё за Бацькаўшчыну.

У часе абеду гучэлі з галосьнікаў беларускія песьні ў выкананьні Данчыка й Сяржука Сокалава-Воюша.

. Урачыстасьць акадэміі адкрыла сп-ня Вера Рамук, сакратар БККЧ, прадставіла гасьцей. Прывітаньні ад губэрнатара штату Джыма Эдгара прачытала ягоная асыстэнтка па этнічных справах сп-ня Пэт Міхальская, а праклямацыю ад мэра гораду Рычарда Дэйлі — сп-ня Роўз Фарына. Сп-ня В. Рамук перадала прывітаньні ад Старшыні Рады БНР др. Язэпа Сажыча і ад беларускіх арганізацыяў ды зачытала верш Генадзя Бураўкіна «Слава Твая, Беларусь» у сваім перакладзе на ангельскую мову і свой верш, прысьвечаны дабрадзейнай арганізацыі Сітыгоўп, што дапамагае ахвярам чарнобыльскай радыяцыі ў Беларусі.

Пасол Г. Бураўкін у сваёй прамове (якую перакладаў на ангельскую мову сп. Георгі Ягораў, першы сакратар Беларускай місіі пры ААН) гаварыў аб працэсе станаўленьня беларускай дзяржаўнасьці, аб чарнобыльскай катастрофе. Нагадаўшы 20-я ўгодкі заснаваньня БККЧ, ён таксама адзначыў усю добрую працу, што была зробленая для Беларусі гэтым камітэтам. Сп. Бураўкін заклікаў і далей працаваць для дабра Беларусі ды перадаў БККЧ сувэніры: беларускі ільняны ручнік і статуэтку зубра. Прамова пасла была



*Арганізатары й госьці ўрачыстасьці: (зьлева) сп-ня Вера Рамук, сп. Генадзь Бураўкін, сп-ня Пат Міхальская, сп-ня Аліна Вайман.*

ўзнагароджаная бурнымі воплескамі.

Із свайго боку, сп-ня В. Рамук ад імя БККЧ перадала шаноўнаму гасьцю выдадзены гарадзкой управай Чыкага плякат, на якім сярод этнічных групаў Чыкага, якія бралі ўдзел у выстаўках праз 27 гадоў, згаданая і беларуская грамада. Сп-ні Юлі Бураўкін была перададзеная беларуская лялька, зробленая сп-няй Эўдакіяй Жызьнеўскай.

У мастацкай праграме выступіў кампазытар-сьпявак Міхась Клейнэр-Парыч (які нядаўна прыехаў зь Менску) зь песьнямі свае кампазыцыі: «Слава Твая, Беларусь» (словы Г. Бураўкіна), «Нам ніколі не памерці (сл. Сяргея Панізьніка) і «Каханыя рукі твае» (сл. Рэма Таміліна). Акампаняваў яму на гітары ягоны пасынак Якаў Кантаровіч.

*(Працяг на 4-й ст.)*

# БЕЛАРУСКІЯ ДЭПУТАТЫ Ў ЗША

Васьмёх народных дэпутатаў Беларусі былі ў красавіку гасьцямі Інфармацыйнага Агенцтва ЗША. Візыт трываў ад 19 красавіка па 1 траўня.



*Дэпутаты Вярхоўнага Савету Беларусі ў Гановэры, штат Пэнсыльвэнія, перад будынкам сп. В. Мельяновіча.*

Мэтай візыту было азнаёміцца з амэрыканскай сыстэмай адміністрацыі на трох узроўнях: фэдэральным, штатавым і мясцовым; пагледзець, як заканадаўцы ў ЗША трымаюць лучнасьць са сваімі выбаршчыкамі, з рознымі галінамі адміністрацыі, палітычнымі партыямі, лабістамі; як улада ахоўвае інтарэсы паасобных грамадзянаў у іхнай назалежнай грамадзка карыснай дзейнасьці; як вядуцца перамовы й абладжваюцца канфлікты; як дзеіць сыстэма «стрымваньня й балянсаваньня».

Гасьцямі Інфармацыйнага Агенцтва былі спсп.: Віктар Алампіеў, Міхась Балоцін, Віктар Какоўка, Уладзімір Новік, Анатоль Протас, Уладзімір Сапронаў, Аляксандар Сасноў і Уладзімір Цялежнікаў.

Першы тыдзень яны правялі ў Вашынгтоне, дзе сустракаліся з кангрэсмэнамі, прадстаўнікамі ўраду ЗША, бізнэсу, узялі ўдзел у ўрачыстасьці адкрыцьця пасольства Беларусі ва ўласным будынку. Дэпутаты пабачылі сталіцу Амэрыкі ў самую прыгожую пару году, калі цьвітуюць вішнёвыя дрэвы.

У пятніцу 23 красавіка аўтар гэтых радкоў запрасіў гасьцей да сябе ў горад Гановэр у штаце Пэнсыльвэнія. Госьці мелі магчымасьць пабачыць мэрылендзкія й пэнсыльвэнскія краявіды, вёскі, хутары, прыватныя гаспадаркі.

Па прыбыцьці на месца, пачаставаўшыся знаёмым боршчам, дэпутаты наведалі гановэрскі банк, дзе віцэ-прэзыдэнт сп. Джэф Дайс расказаў, як банк працуе, якія дае паслугі; пабылі ў харчовым магазыне «Джаянт» і ўва ўнівэрмагу «Ўол Март» (дзе набылі сабе патрэбныя рэчы). Цікавым было наведаньне ўнівэрмагу будаўляных тавараў. Тут парлямэнтарыі мелі нагоду пагаварыць з мэнаджэрам аб усім, што яны бычылі ў магазыне. Мэнаджэр сп. Рон Вэб паясьніў ім, што ў ягоны магазыне пакупнік можа набыць сабе ўсё патрэбнае для правядзеньня рамонту ў доме, дабудовы, разбудовы, упрыгожаньня памешканьня — ад цьвіка да туалетаў, ад дошкі да хварбы і ўсяго іншага.

Затрымаўшыся ў рэстаране на вячэру, шаноўныя госьці пачаставаліся марскімі стравамі. Мэнаджэр, кухар і маладая прыслуга шчыра віталі дэпутатаў далёкай краіны, радыя былі зь імі пазнаёміцца. Рэшта дня й вечар прайшлі ў нашай хаце ў гутарках пра падзеі дня ды пра тое, што засталося далёка за акіянам — дарагую родную зямлю.

У сыботу 24 красавіка наведнікі паехалі на Далесаўскі аэрапорт, адкуль адляцелі ў Каліфорнію. Там яны працягвалі спатканьні з кангрэсмэнамі і са сп. Язэпам Арцюхом.

**В. Мельяновіч**

*Ад Рэдакцыі:* Сп. Уладзімір Новік, вярнуўшыся з Амэрыкі ў Менск, у тэлефанічнай гутарцы з рэдактарам «Беларуса» сказаў, што ўсе дэпутаты-наведнікі гасьціннага дому сп-тва Мельяновічаў, шчыра ўдзячныя за выдатную ролю сп. Васіля Мельяновіча ў іхным азнаямленьні з Амэрыкай. Асабліва цікавым для іх было наведаньне банку й магазынаў.

## «БЕЛАРУСКІ ГІСТАРЫЧНЫ ЧАСОПІС»

Нарэшце! Выйшаў першы нумар выданьня, якога дзесяцігодзьдзямі чакала Беларусь. У праводным слове Старшыня парлямэнту рэспублікі Станіслаў Шушкевіч кажа выдаўцом і будучым супрацоўнікам: «Каб ачысьціць беларускую гісторыю ад наноснага і фальшывага, абудзіць у людзей цікавасьць да сваёй багатай спадчыны і гонар за яе, спатрэбяцца настойлівасьць, прынцыповая пазыцыя і глыбокая ўнутраная вера ў адраджэньне Бацькаўшчыны».

З матэрыялаў першага нумару відаць, што рэдакцыя й супрацоўнікі квартальніка «Беларускі гістарычны часопіс» пазначаныя якасьцямі, пра якія гаворыць сп. Шушкевіч. Трэба згадзіцца з выказваньнем сп. Леаніда Ляўчука, першага намесьніка старшыні ўправы таварыства «Веды», што ўзяты часапісам падыход да гісторыі «ўзбагаціць ўяўленьні аб уласнай гісторыі, дапаможа многім хутчэй пераадолець застарэлы сындром нашай асуджанасьці на непаўнацэннасьць, на векавечнае быцьцё пад чыімсьці патранажам».

Першы нумар «БГЧ» (128 ілюстраваных старонак) багаты і разнастайны зьместам. Наклад: 7000 паасобнікаў. Усе матэрыялы ў ім зьмешчаныя, як і належыцца, па-беларуску. У канцы нумару па дзьве старонкі адведзена на расейскамоўны і англамоўны зьмест.

Рэдакцыя аднак робіць памылку (якую дапушчаюць і шмат якія іншыя выдаўцы ў рэспубліцы), транслітаруючы ўласныя імёны ў ангельскую мову не зь беларускага арыгіналу, а з расейскага перакладу. Вызваляючыся з-пад «чыйгосьці патранажу», трэба нарэшце вызбыцца заганнага комплексу ніжэйшасьці, і не нацягваць на сябе чужую апранаху перад тым як выйсьці ў сьвет.

# 75-ГОДЗЬДЗЕ БНР

*(Заканчэньне з 3-й ст.)*

З прысутных гасьцей прамаўлялі: польскі консуль у Чыкага Міхал Грахольскі і ўкраінскі консуль у Чыкага Анатолі Олійнык. Беларускі консуль з Вашынгтону сп. Міхась Хвастоў зачытаў прывітаньне ад Часовага Паверанага РБ у Вашынгтоне сп. Сяргея Мартынава.

Ад імя БККЧ сп-ня В. Рамук і сп. М. Сысой перадалі ўзнагародныя плякеткі за вытрывалую працу на беларускай грамадзкай ніве сп-ні Ірэне і др. Роляндy Талівэрам, а таксама сп. Тамашу Габі, віцэ-прэзыдэнту банку Ля-Сэл — Толман і дырэктару тэлевізійнай праграмы, які, у супрацоўніцтве з БККЧ, шмат спрычыніўся на пашырэньня вестак пра Беларусь.

Сп-ня Эмі Паркер, удзельніца акцыі дапамогі ахвярам Чарнобыля ў Беларусі, распавяла пра сытуацыю хворых беларускіх дзяцей.

З дэклямацыяй вершу Зьмітрака Бядулі «Прысягаем» па-беларуску выступіў сп. Вільям Волат, а па-ангельску — сп-ня Аліна Вайман.

Сп. Міхась Клейнэр-Парыч выканаў яшчэ тры песьні. Публіка ўзнагародзіла выканаўцаў мастацкае часткі гучнымі воплескамі.

Малітву на заканчэньне ўрачыстасьці сказаў пастар украінскай баптысцкай царквы Антын Кацэлупа, а старшыня БККЧ сп. Сысой падзякаваў усім за прысутнасьць на акадэміі.

Урачыстасьць закончылася супольным адсьпяваньнем беларускага гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» і амэрыканскай патрыятычнай песьні «Божа, блаславі Амэрыку».

**Др. Вітаўт Рамук**



*З прывітаньнем Беларуска-Амэрыканскай Радзе ў Чыкага ад губэрнатара штату Іліной Джыма Эдгара на 75-я ўгодкі БНР сп-ня Пэт Міхальская. Каля яе (справа): сп. Міхась Каленік, старшыня БАНР, зьлева — сп. Аляксандар Шышко, старшыня царкоўнай рады царквы Сьв. Юрыя.*

## ЛЁС-АНДЖЭЛЕС, КАЛІФОРНІЯ

Сьвяткаваньне 75-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі адбылося ў нядзелю 28-га сакавіка ў залі ўкраінскай каталіцкай царквы, што ў Галівудзе. Акадэмія пачалася адсьпяваньнем амэрыканскай песьні God Bless America і беларускага рэлігійнага гімну «Магутны Божа». Затым былі прачытаныя прывітаньні, прысланыя на адрас рэдактара англамоўнага часопісу «Беларускі Агляд» сп. Язэпа Арцюха ад каліфарнійскага сэнатара Робэрта Бэвэрлі і старшыні Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі Р. Завістовіча, а таксама тэксты зваротаў да суродзічаў на Бацькаўшчыне і на эміграцыі ад Старшыні Рады БНР др. Язэпа Сажыча і Старшыні БЦР М. Зуя. Апрача гэтага былі зачытаныя, высланыя таксама на адрас рэдактара «Беларускага Агляду», лісты ад Прэзыдэнта ЗША Біла Клінтана і ад імя Дзяржаўнага Сакратара ЗША Ўорэна Крыстафара.

З дакладам на тэму дня выступіў др. В. Сянькевіч, які нядаўна пераехаў з Гішпаніі на сталае жыцьцё ў Каліфорнію. Дакладчык пагартаў старонкі нашае багатае гісторыі, коратка расказаў пра тых, хто стаяў ля вытокаў БНР, спыняючыся шырэй на велічы і значэньні сымбалю Акту 25-га Сакавіка. Ён падкрэсьліў, што ідэя незалежнасьці Беларусі сталася арганічнай часткай душы беларускага народу, ягонай рухаючай сілай, ягоным натхненьнем і ягонай вызначальнай мэтай. А ў гэтым, як мы бачым на прыкладзе падзеяў апошніх гадоў на Бацькаўшчыне, — сказаў ён, — і ляжыць найбольшая зарука, што ідэя беларускай дзяржаўнай незалежнасьці, як і кожная вялікая і жывая ідэя, затрыюмфавала над моцай накіданымі беларускаму народу хвальшывымі ідэямі і становіцца споўненым фактам.

У мастацкай частцы ўрачыстасьці сп-ня Каця Вініцкая прадэклямавала два глыбока патрыятычныя вершы беларускіх паэтаў. У канцы афіцыйнае часткі акадэміі быў адсьпяваны беларускі нацыянальны гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». Сьвяткаваньне закончылася смачным пачастункам, які падрыхтавалі ўдзельніцы ўрачыстасьці, ды абменам думак і поглядаў.

**С.**

## ЛЁНДАН, АНГЛІЯ

Сьвяткаваньне 75-х угодкаў Акту 25-га Сакавіка, арганізаванае галоўнай управай Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі (ЗБВБ), адбылося 27-га сакавіка ў залі пры Беларускай Бібліятэцы імя Ф. Скарыны. Сп. Я. Міхалюк, старшыня ЗБВБ, прывітаў прысутных, сярод якіх было нямала гасьцей зь Беларусі і Беласточчыны ды аддаленых мясьцінаў Англіі. Адзначыўшы гістарычную важнасьць сёлетніх угодкаў, ён адкрыў урачыстую акадэмію.

Сп. А. Зданковіч зачытаў прывітальныя лісты: ад Старшыні Рады БНР сп. Я. Сажыча, ад Старшыні БЦР з Аўстраліі сп. М. Зуя, Старшыні БНФ сп. З. Пазьняка, Гомельскага аддзелу БНФ, выдавецтва «Нёман», сакратара Фэдэральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі сп. П. Гуза, прадстаўніка БНР у Бэльгіі сп. Я. Жучкі, Беларускага Каардынацыйнага Камітэту Канады (др. Р. Жук-Грышкевіч), Старшыні Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі сп. Р. Завістовіча ды ад аддзелу БАЗА ў Каліфорніі.

Сп. Я. Міхалюк прадставіў дакладчыка сп. В. Зайку, які на Оксфардзкім Унівэрсытэце вывучае гэбрэйскую мову. Тэмай ягонага цікавага рэфэрату было разьвіцьцё беларускай нацыянальна-палітычнай сьведамасьці, якое завяршылася Актам 25-га Сакавіка 1918 г.

Пасьля рэфэрату быў праслуханы з магнітафоннай стужкі мантаж зь 50-х угодкаў 25-га Сакавіка.

Сп-чна Эля Зянькова прачытала верш Н. Арсеньневай: «Ён грацць ня сьціхне».

Сп. А. Зданковіч паінфармаваў, што нядаўна на Лёнданскім Унівэрсытэце праходзілі сэмінары, на якіх былі выступленьні цікавых беларускіх навукоўцаў зь Менску, і папрасіў адну з удзельніцаў сэмінару, асьпіранта філязофскіх навук сп-ню Тацьцяну Буйко падзяліцца сваімі ўражаньнямі. Сп-ня Буйко цёплымі словамі выказала сваю радасьць і ўдзячнасьць за ўсё, што сустрэла тут сярод беларусаў. Прачулае выступленьне маладой жанчыны ў нацыянальнай вопратцы кранула душу слухачоў.

Выступілі таксама іншыя маладыя вучоныя зь Менску. Сп-чна Тамара Курбыка, асьпірант палітычных навук, якая выказала задаваленьне сваёй навукай у Лёндане і сустрэчамі з тутэйшымі беларусамі. Была яна тут у Англіі ў 1983 годзе, але цяпер зусім іншая атмасфэра і ёсьць магчымасьць быць сярод сваіх...

Такімі-ж цёплымі словамі падзяліўся сваймі пачуцьцямі й паглядамі сп. Ігар Бабкоў, асьпірант гісторыі філязофіі, паэт і літаратар.

Прамаўлялі таксама др. Васіль Еўдакімаў, юрыст, і сп. Віталі Зайка.

Сп. Міхалюк у сваім слове падзякі за ўдзел у акадэміі адзначыў заслугу праф. Джэймса Дынглі ў наладжаньні сэмінару аб Беларусі на Лёнданскім Унівэрсытэце і ў падборы таленавітых маладых вучоных.

Афіцыяльная частка ўрачыстасьці закончылася адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну.

Сп. Міхалюк заклікаў прысутных скласьці ахвяру ў фонд "Дар Сакавіка" (было сабрана 200 фунтаў).

У часе пачастунку праф. Дынглі зьвярнуўся з просьбай аб дапамозе школе № 131 у менскім промысловым раёне Чыжоўка, каб хоць адну школу ў сталіцы рэспублікі паставіць на належны навучальны ўзровень.

Вясёлы настрой вечару і атмасфэра сяброўства ў шматлікай грамадзе застанецца незабыўным успамінам удзельнікам гэтай слаўнай гадавіны.

**А. Зданковіч**

## ПЭРТ, АЎСТРАЛІЯ

Беларускае Аб'еднаньне, парафія БАПЦ Жыровіцкай Божай Маці і Беларускі Радыёвы Камітэт (БРК) адзначалі 75-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі 28-га сакавіка ў гасподзе сп-ні Еўфрасіньні Дамброўскай. 24-га сакавіка ўсю паўгадзінную праграму БРК прысьвяціў гэтаму вялікаму нацыянальнаму сьвяту. У нядзелю 28-га сакавіка ў царкве сьв. Марыі а. Уладзімер, настаяцель парафіі, прачула адправіў малебен за беларускі народ і ўсіх, што аддалі сваё жыцьцё за вызваленьне Бацькаўшчыны. У часе малебну прыгожа сьпяваў царкоўны хор пад кіраўніцтвам матушкі Ірэны. Пасьля малебну ўсе паехалі у Майлендз, дзе адбылося сьвяткаваньне. Урачыстасьць пачалася адыграньнем беларускага і аўстралійскага нацыянальных гімнаў. Прывітальнае слова сказаў старшыня Беларускага Аб'еднаньня ў Заходняй Аўстраліі сп. М. Раецкі малодшы ды папрасіў сп. Р. М. прачытаць прысланыя прынагодныя вітаньні ад Старшыні Рады БНР, Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне», аддзелу БАЗА ў Нью-Ёрку, Беларускага Каардынацыйнага Камітэту Канады, Беларускага Цэнтральнага Камітэту Вікторыі і Беларускага Аб'еднаньня Паўдзённай Аўстраліі. (Усе прысланыя прывітаньні былі паданы 31-га сакавіка ў беларускай радыяпраграме радыястанцыі 6 EBA-FM.)

Галоўнай увагай акадэміі былі два даклады, першы па-ангельску і наступны па-беларуску. Па-ангельску зрабіў старшыня Б. А. у Заходняй Аўстраліі, а па-беларуску Р. М. Рэфэраты былі вельмі цікавыя і прынятыя з задаваленьнем. Пасьля дакладаў была праведзена зборка ахвяраў на «Дар Сакавіка» (сабрана 390 даляраў). Закончылася сьвяткаваньне пачастункам, у часе якога выказвалася заклапочанасьць прапагандай на Беларусі за наданьне расейскай мове статусу дзяржаўнай, а таксама аб зьмене формы крыжа на гэрбе Пагоня.

За прыгатаваньне пачастунку найшчырэйшая падзяка належыцца сяброўкам Б. А. у Заходняй Аўстраліі.

**Р. М.**

### НА БЕЛАРУСКІЯ РАДЫЯПРАГРАМЫ Ў ПЭРЦЕ

*Склалі ахвяры:*

| | |
|---|---|
| Сп-ня А. Юрша | дал. 15 |
| Сп. М. Нікан | 10 |
| Др. А. Бразоўскі | 30 |

Шчыра дзякую ўсім.

**Кіраўнік БРК**
**Міхась Раецкі**

## АДЭЛЯЙДА, АЎСТРАЛІЯ

Беларускае Аб'еднаньне і парафія Сьвятых Апосталаў Пятра й Паўла адсьвяткавалі Дзень Незалежнасьці Беларусі 28 сакавіка. Царква была поўная народу. На багаслужбу, адпраўленую а. М. Бурносам, прыйшлі праваслаўныя й каталікі, каб супольна ўшанаваць Акт 25 Сакавіка.

Дзякуючы сп-ні Паўліне Махальскай і сп. Паўлюку Пачопку, царква была ўпрыгожаная кветкамі. Добра сьпяваў хор, якім дырыгаваў сп. Уладзімер Калесьнікoвіч. Пасьля літургіі быў адслужаны малебен за Беларускі народ. Стаяла сьцяжная варта зь беларускім і аўстралійскім сьцягамі (спсп. Мікола Колес і Мікола Кандрусік).

Акадэмія пачалася супольным адсьпяваньнем нацыянальнага гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». Сп. Колес прачытаў атрыманыя прывітаньні, а таксама рэфэрат па-беларуску й па-ангельску.

Быў праведзены збор грашовых ахвяраў на «Дар Сакавіка» (сабрана 205 даляраў).

Айцец Міхась бласлaвіў ежу, нарыхтаваную жанчынамі, і за агульным сталом, у добрым настроі, сьвяткаваньне трывала аж да 4-й гадзіны.

**У. Акавіты**

## КАЛІНІНГРАД (КАРАЛЕВЕЦ)

Паводля газэты «Калининградская правда» (25.III), Беларускае культурнае таварыства Калінінградзкае вобласьці адзначыла 75-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці БНР урачыстым вечарам. У праграме вечара быў дакумэнтальны фільм, спэктакль менскага тэатру «Зьніч». Урачыстасьць адбылася ў Калінінградзкай мастацкай галерэі.

## МАСЕЙ СЯДНЁЎ У «РОДНЫМ СЛОВЕ»

Навукова-мэтадычны месячнік Міністэрства адукацыі Беларусі «Роднае слова» (тыраж: 14 тыс.) узяў на сябе важную справу дапамагаць настаўніку ўзгадоўваць маладое пакаленьне беларусаў у азнаёмленасьці з усім багацьцем беларускае літаратуры. Галоўны рэдактар часапісу Міхась Шавыркін сярод парадаў настаўнікам дае й гэткую: «у канцы навучальнага году — размова на ўроках пра мясцовых літаратараў, пра пісьменьнікаў-ураджэнцаў раёну, вобласьці, пра сувязь пісьменьнікаў (беларускіх, замежных) зь мясцовым краем...».

У моц новага падыходу да літаратурнае спадчыны, у 2-м і 3-ім сёлетніх нумарох «Роднага слова», у рубрыцы «Літаратура беларускага замежжа», зьмешчаны вялікі артыкул Алеся Марціновіча пра творчасьць паэта й празаіка Масея Сяднёва, пад заг. «А часу больш, чым вечнасьць». Надрукаваныя вершы Сяднёва розных гадоў. Артыкул ілюстраваны 13 фатаграфіямі з жыцьця пісьменьніка й ягонае сям'і на эміграцыі, а таксама з сустрэчаў на Бацькаўшчыне ў 1990 і 1992 гадох. У артыкуле расказваецца пра цярністы жыцьцёвы шлях паэта, падаецца інфармацыя пра кнігі ягонае паэзіі і прозы, дадзеная высокая ацэнка літаратурнае творчасьці, асабліва паэзіі.

Пра раман «Раман Корзюк» А. Марціновіч кажа: «Да М. Сяднёва ніхто яшчэ так ня пісаў пра сумненьні, перажываньні, няпэўнасьць, дваякасьць становішча тых, хто не па сваёй волі апынуўся на 'нэйтральнай паласе', вымушаны быў як паратунку шукаць апекі ў ... фашыстаў. Зразумець гэтых людзей — значыць, паспрабаваць зразумець у праўдзе аб мінулай вайне адзін з самых важных пластоў, які не адно дзесяцігодзьдзе знаходзіўся ў надзейных сховах нашай памяці. Жыцьцёвай і літаратурнай».

На нутраной вокладцы 2-га нумару часапісу, пад фатаграфіяй пісьменьніка, зьмешчаны ягоны зварот да настаўніка-чытача «Роднага слова»: *«Паважаны, дарагі беларускі настаўнік! Ня дай памерці нашай роднай, матчынай беларускай мове! У Тваіх руках лёс беларускага народу. Выхоўвай сябе і выхоўвай вучняў Тваіх. З іх пачнецца адраджэнне нашай нацыі. Будучыня за Табою. Ты будаўнік беларускага характару. Ня ўхіліся ад гэтага пачэснага абавязку 21.10.92 — М. Сяднёў*

Артыкул пра творчасьць Масея Сяднёва канчаецца гэткім абнадзейвальным абагульненьнем: «Адраджаецца наша мова, адраджаецца літаратура. Адраджаецца не безь яго, Масея Сяднёва, чыннага ўдзелу».

Апошнімі гадамі артыкулы і іншыя матар'ялы М. Сяднёва, рэпартажы пра ягонае наведаньне Бацькаўшчыны, інтэрв'ю зь ім друкаваліся ў газэтах «Літаратура і Мастацтва», «Чырвоная змена», «Голас Радзімы», часапісах «Полымя», «Маладосьць». Выдавецтва «Мастацкая літаратура» выдала ў 1992 годзе вялікі зборнік твораў пісьменьніка, паэзіі і прозы, пад заг. «Патушаныя зоры».

## *ЮБІЛЕЙНАЯ ВЫСТАЎКА Ў САЎТ-РЫВЭРЫ*

Беларускае Культурнае Таварыства ў Нью-Джэрзі наладзіла 4 красавіка сёлета ў саўтрывэрскім Беларуска-Амэрыканскім Цэнтры сваю 20-ю гадавую выстаўку мастацкіх твораў і вырабаў.

Дваццаць адзін мастак і шаснаццаць умельцаў паказалі свае абразы, скульптуры, фатаграфіі, вырабы, вышыўку ды іншае, разьмешчаныя ўздоўж сьценаў і на сталах пакрытых беларускімі дзяружкамі і вышыванымі ручнікамі. Шмат папрацавалі арганізатары выстаўкі — Ірэна й Мікалай Дутко, Лявон і Ліза Літаровічы, Андрэй Такаюк, Тамара й Аляксандар Кольба, Алег і Людміла Махнюкі, Міхась Бахар, Аляксандар Сільвановіч ды інш., — каб сабраць добрых колькі соцен экспанатаў ды густоўна разьмясьціць і аформіць экспазыцыю. Вельмі прыгожую праграмку выстаўкі апрацавала мастачка-графік Ірэна Дутко.

Адчыняючы паказ, сп-ня Дудко адзначыла вялікі ўклад энтузіязму й працы ўсімі ўдзельнікамі, сярод якіх былі ня толькі мастакі з Амэрыкі, але й зь Беларусі ды зь Беласточчыны.

## БЕЛАРУСКАСЬЦЬ ЛУЧЫЦЬ ДЗЯЦЕЙ З ЭСТОНІІ Й ЗША



*Малюнкі беларускіх дзяцей з Эстоніі на выстаўцы Саўт-Рывэры. Мастачка Ст. Тамара паказвае на тэкст з заклікам да наведнікаў набываць малюнкі, каб дапамагчы чарнобыльскім дзецям.*

«Дзеці — дзецям» — пад гэткай рэклямай была праведзена выстаўка малюнкаў беларускіх дзяцей з эстонскага гораду Кохтла-Ярве на 20-й штагодняй мастацкай выставе ў Саўт-Рывэры. Беларускія дзеці ў Эстоніі падаравалі свае малюнкі для дзяцей у Беларусі, што хварэюць ад чарнобыльскай радыяцыі. Сп-ня Астраумава, сяброўка Беларуска-Эстонская Згуртаваньня, прыслала малюнкі мне з просьбай прадаць іх тут, у Амэрыцы, ды грошы за іх ахвяраваць на хворых дзяцей у Беларусі. На шчасьце, малюнкі прыйшлі два дні перад нашай выставай, дык зь вялікай ахвотай мы іх разьвесілі.

Век аўтараў малюнкаў — ад 5 год да 15. Гэта быў вельмі цікавы й прывабны дадатак да нашай выставы. Мы чакалі на дзіцячыя малюнкі зь Менску, але, на вялікі жаль, Асацыяцыя Дзіцячай Прэсы нам іх ня прыслала на час.

Наведнікі выставы былі вельмі ўзрушаныя дабрачынным актам беларускіх дзяцей з Эстоніі і з зацікаўленьнем разглядалі тэмы маладых мастакоў ды набывалі выявы іхнага разуменьня чарнобыльскай трагедыі.

Прадаліся ўсе 23 малюнкі (па 15 дал.). Разам зь невялікай ахвярай сабрана 350 даляраў. Фонд Чарнобыля параіў нам не высылаць грошы, а купіць цацкі для хворых дзяцей у шпіталёх.

Шчыра дзякуем беларускім дзеткам у Эстоніі за іхнюю духовую шчодрасьць, за ахвярнасьць у дачыненьні да хворых дзяцей Беларусі.

Малюнкі маладых мастакоў з Эстоніі набылі: Арцюшэнка Соня, Леў Стагановіч, Ала Орса-Рамана, Леаніла Татум, Марыя Касянчук, Надзя Кудасава, Таіса Шчорс, Мікалай Навіцкі, Тамара Дутко, Стася Шумская, Валя Камянкова, Ніла Цярпіцкая, Людміла Літаровіч, Ніна Сільвановіч, Каця Багіна, Мэлёдыя Блюм, Васіль Русак, Стагановіч Тамара.

**Ст. Тамара**

## ДУХОЎНАЕ ЯДНАНЬНЕ

У выдавецтве «Навука і тэхніка» выйшла летась кніга пад назовам «Культура беларускага замежжа» пад рэдакцыяй і з уступным словам доктара мастацтвазнаўства, прафэсара Анатоля Сабалеўскага. У прадмове гаворыцца: «Адчуваючы пільную патрэбу, каб духоўныя, культурныя набыткі замежных суродзічаў сталіся і нашымі здабыткамі, каб зьліквідаваць прагалы на карце нацыі, выправіць мінулыя памылкі, садзейнічаць большаму паразуменьню і паяднаньню народа, у сярэдзіне 1991 году быў арганізаваны Часовы творчы калектыў па дасьледваньні тэмы 'Духоўная і матэрыяльная культура беларускага замежжа'. Як вынік працы гэтага калектыву, і зьявілася сёлета першая кніга «Культура беларускага замежжа». Фінансаваньне гэтага выданьня ўзяло на сябе Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.

Што-ж мы маем у гэтым каштоўным навуковым выданьні?

Адкрываецца кніга разьдзелам «Постаці». У гэтым разьдзеле зьмешчаны аналітычны артыкул кандыдата філялягічных навук Міколы Мішчанчука «Між берагамі» (лёс і творчасьць Натальлі Арсеньневай); артыкул старэйшага навуковага супрацоўніка Інстытуту літаратуры Лідзіі Савік «Мне песьня дадзена для мукі» (штрыхі да творчага партрэта Масея Сяднёва); артыкул Яўгена Адамовіча «Вучоны, паэт, грамадзянін» (штрыхі да творчага партрэта Аляксандра Баршчэўскага — Алеся Барскага); артыкул Анатоля Сабалеўскага «Данчык — шлях да Беларусі».

У іншым разьдзеле кнігі, «Выданьні», зьмешчаны артыкулы: Віктар Шматаў — «Нататкі мастацтвазнаўчай Скарыніяны»; Уладзімір Мамонька — «Праблемы культуры і мастацтва ў 'Запісах'»; Людміла Маленка — «Дэкаратыўна-прыкладное і выяўленчае мастацтва на старонках «Нівы».

У трэйцім разьдзеле кнігі, «Фальклёр», артыкул Арсеня Ліса «Каляндарна-абрадавыя творы» і артыкул Анатоля Фядосіка «Радзінна-хрэсьбінная і вясельная паэзія» (абодвы артыкулы заснаваныя на матэрыяле Беласточчыны).

Кніга «Культура беларускага замежжа» вызначаецца высокім навуковым узроўнем, яна бязумоўна спрычыніцца да духоўнага яднаньня і паразуменьня нашага народу. Хочацца спадзявацца, што за гэтай першай кнігай вучовы калектыў падрыхтуе наступныя.

**М.С.**

***З жыцьця ў Чыкага***

## БЕЛАРУСКАЙ РАДЫЯПРАГРАМЕ 33 ГАДЫ

Сёлета мінула 33 гады ад заснаваньня ў Чыкага радыяпраграмы «Нёман». Першая перадача адбылася 25 сакавіка 1960 году і ад таго часу перадаецца раз на месяц (на часьцейшае не дазваляюць фінансы), у чацьвертую нядзелю месяца а гадзіне 7-й увечары са станцыі WEDC-1240 AM.

З нагоды 33-х угодкаў радыяпраграмы «Нёман» губэрнатар штату прыслаў Нікадэму Жызьнеўскаму, кіраўніку радыяпраграмы, прывітаньне, у якім піша:

Паважаны сп. Жызьнеўскі!

Як губэрнатару штату Іліной мне прыемна павіншаваць Вас з 33-мі ўгодкамі радыяпраграмы «Нёман».

Паслуга, якую Вы робіце беларуска-амэрыканскай грамадзе вельмі важная. «Нёман» падае навіны і інфармацыю пра падзеі, што маюць дечыненьне да Вашых слухачоў. Праграма, у якой перадаецца разнастайны матар'ял, перахоўвае таксама этнічную спадчыну і гонар за сваю культуру. Жадаю, каб Вы працягвалі свае вартасныя паслугі яшчэ шмат гадоў.

Ад імя грамадзянаў штату Іліной жадаю Вам удачаў у працы.

З пашанай,

**Джым Эдгар**
**Губэрнатар**

## УШАНАВАНЬНЕ ДР. МАРЫІ ДЭМКОВІЧ

Менская газэта «Набат» (№ 9, красавік 1993) зьмясьціла інфармацыю пра наведаньне ўвесну сёлета Беларусі амэрыканскай дэлегацыяй мэдыкаў на чале з прафэсарам Пітсбургскага Унівэрсытэту Томасам Фолі. Прафэсара Фолі зацікавіла чарнобыльскай праблемай Беларусі др. Марыя Дэмковіч, ураджэнка ведамай палескай вёскі Мотыль. Працуючы ў Пітсбургскім шпіталі, др. Дэмковіч аддае шмат энэргіі, часу й сваіх асабістых сродкаў на дапамогу ахвярам чарнобыльскай радыяцыі. Разам з праф. Фолі яна наведала Беларусь. У тым-жа нумары «Набату» — «сацыяльна-экалягічнай газэце», якую рэдагуе публіцыст Васіль Якавенка — зьмешчаны здымак др. Дэмковіч і прысьвечаны ёй верш Іосіфа Васілеўскага пад заг. «Признательность».

Праф. Фолі ўжо трэці раз быў у Беларусі. Дзякуючы ягоным захадам і пры актыўнай дапамозе др. Дэмковіч, а таксама беларускае грамады ў ЗША, яму ўдалося дастаць грант 240 тысячаў даляраў на супрацоўніцтва паміж амэрыканскімі й беларускімі лекарамі, што спэцыялізуюцца ў мэдычнай радыялёгіі.

У гутарцы з В. Якавенкам праф. Фолі сказаў: «Беларуская грамада (у Амэрыцы) павінна адукаваць амэрыканцаў. Беларусы мусяць расказаць там аб праблемах Чарнобыля і, упаасобку, аб праблеме пэдыятрыі ў Беларусі. Дзякуючы праўдзівай інфармацыі мы маглі-б сабраць пэўныя грошы».

## ПОЛЬСКАЕ ВОЙСКА НА БЕЛАРУСІ: ЗАПАЛОХВАНЬНЕ ЦІ ШТО ІНШАЕ?

Аргумэнтуючы на карысьць ваеннага саюзу з Расеяй, Ніна Шэлдышэва піша ў «Советской Белоруссии» (4.05.93):

«Часапіс, выдаваны міністэрствам абароны Польшчы, у першым нумары за сёлетні год зьмясціў карту, на якой месцы дыслякацыі польскага войска да 2000 году прапануецца перанесьці на тэрыторыю Берасьцейскай і Гарадзенскай вобласьцяў. Можна ўявіць, як няўтульна адчувае сябе Польшча пад крылом нямецкага арла, але і яна, як выяўляецца, не ад таго, каб крыху пацясьніць свайго ўсходняга суседа».

## СЬВ. † ПАМ. УЛАДЗІМЕР ЦЕЛЕШ

**(1.IV.1911 — 8.IV. 1993)**

Пражыўшы 82 гады, адыйшоў у вечнасьць сьв. пам. Уладзімер Целеш.

Нарадзіўся нябожчык у в. Краснае Сяло каля Росі Ваўкавыскага павету ў сялянскай сям'і Антона й Крыстыны Целяшоў. Меў двух старэйшых братоў. Калі Валодзі споўнілася чатыры годы, сям'я, уцякаючы ад фронту, падалася ў бежанства, адкуль Целяшы вярнуліся недзе ў 1922 годзе.

Па заканчэньні сямікласнай школы Валодзя вывучыўся на краўца. Адбыў вайсковую службу ды пачаў уладжвацца жыць, калі настала Другая сусьветная вайна, і Валодзя ізноў пайшоў з дому. Вайну адбыў шчасьліва, але дома не давялося доўга быць. З курсу статыстыкі яго арыштавала НКУС і пасьля розных турмаў, допытаў і суду ён быў высланы ў ГУЛаг. Дзякуючы абставінам, што скляліся ў выніку нямецка-бальшавіцкай вайны, Целешу, як і шмат тысячам беларусоў з Заходняй Беларусі, удалося вызваліцца з савецкіх лягероў і падацца ў польскае войска пад брытанскім камандаваньнем. Нябожчык прайшоў шлях праз Іран, Ірак, Сырыю, Палестыну, Эгіпет і наапошку Італію ды Монтэ-Касына.

Па заканчэньні вайны У. Целеш трапіў у Ангельшчыну. Пасьля дэмабілізацыі пачаў працаваць па фаху. Пазнаёміўся зь Лідай. Пажаніліся. Зьявілася двое дзетак. У 1952 г. пераехалі ў Канаду.

Крыху абжыўшыся на новым месцы, Целешы далучыліся да парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага БАПЦ у Таронта, дзе нябожчык стаў вельмі актыўным сябрам, а пасьля, аж да вясны 1992 году, быў старшынём парафіяльнай рады.

Век рабіў сваё. Чатырнаццаць месяцаў таму яму ампутавалі па калені абедзьве нагі. Але нябожчык ня паў духам, ды яшчэ плянаваў і памагаў плянаваць грамадзкае й рэлігійнае жыцьцё. Быў актыўны і працавіты сам, заахвочваў да грамадзкай працы сваю спадарожніцу жыцьця Ліду і, колькі мог, сваіх чацьвёра дзяцей, трох дачок і сына. Беларускае грамадзтва ўсіх іх ведае, перш як вучяў ня дзельнае школкі, пасьля — сяброў танцавальнага гуртка, а цяпер, як парафіянаў царквы Сьв. Кірылы Тураўскага.

Некалькі год таму сьв. пам. Целеш адведаў Бацькаўшчыну, а апошнім часам вельмі цешыўся з тых падзеяў, што адбываліся ў Беларусі.

Апрача ўдзелу ў рэлігійным жыцьці, нябожчык быў актыўным удзельнікам грамадзкага жыцьця, быў сябрам Рады БНР. Ягоная адданасьць беларускай справе — прыклад для цэлага грамадзтва.

Паховіны адбыліся 13 красавіка ў царкве Сьв. Кірылы Тураўскага. Літургію Вялікага Тыдня адправіў Мітрапаліт Мікалай. На багаслужбу прыйшло шмат людзей. Паўкілямэтровая калёна аўтамабіляў, папярэджавана паліцэйскай аховай, праводзіла сьв. пам. У. Целеша на яго апошняй дарозе.

Шмат розных дарогаў адбыў нябожчык. Два разы ў Сібір, навокала сьвету праз Ангельшчыну ў Канаду, і наапошку — з гонарам — на вечны супакой на могільніку Проспэкт. Там разьвітальнае слова ад імя Заступніка Старшыні Рады БНР др. Барыса Рагулі прачытаў аўтар гэтых радкоў.

Адыйшоў ад нас чалавек у поўным сэнсе гэтага слова. Жыў зь людзьмі, дбаў пра людзей, меў сям'ю, дбаў пра сям'ю. Пражыў свой век, не змарнаваўшы яго. Заўсёды поўны аптымізму да апошняй гадзіны, калі яшчэ, не прадчуваючы канца свайго жыцьця, у гутарцы з Уладыкам Мікалем рабіў пляны на летні сэзон, зьбіраўся быць на вялікоднай Усяночнай службе ў царкве. Беларуская пагаворка кажа: «Божа, дай мне здаровы розум да сьмерці». Бог надарыў яго гэткім розумам і нябожчык аддаў яго свайму народу й Царкве. Адыйшоў бяз мукаў і цярпеньняў, бо хіба сваё адпакутаваў на ссылках і вайне, захаваўшы вернасьць сваёй веры і свайму народу.

Нашы найглыбейшыя спачуваньні сп-ні Лідзе Целеш, дочкам Рыце-Раісе, Крыстыне і Аніце ды сыну Роланду, унучкам Тані, Сіман і ўнуку Шану, зяцём Янку і Марку ды нявестцы Дане.

Хай пухам будзе Табе, Валодзя, канадыйская зямля, а памяць пра Цябе — у сэрцах нашых.

**Мікола Ганько**
**Старшыня ЗБК**

## СЬВ. † ПАМ. НІНА КУЛЕШ

**(27.XI.1917 — 5.IV.1993)**

5 красавіка 1993 г. адыйшла ў вечнасьць мая жонка Ніна, дачка Канстантына і Любы (з дому Аляшкевіч) Бітус.



Сьв. пам. Ніна нарадзілася ў мястэчку Любча каля Навагрудка. Пасьля любчанскай пачатковай школы скончыла Беларускую Гімназію ў Навагрудку. У 1941 годзе выйшла замуж за Марыяна Хмялеўскага, які ў часе вайны загінуў бязь весткі, а Ніна засталася жыць з дачушкай Надзяй (Дзідзяй) пад апекай бацькоў.

Жахлівыя падзеі вайны не дазволілі К. Бітусу і ягонай дачцы з унучкай застацца ў сваёй роднай Любчы, і яны пастанавілі падацца «на кароткі час» на Захад, з надзеяй вярнуцца ў родны кут. Маці нябожчыцы, Люба Паўлаўна, вырашыла застацца, каб апекавацца сваёй старэнькай маткай і даглядаць дом.

Пры дапамозе свайго пляменьніка, Барыса Рагулі, К. Бітус з дачкой і ўнучкай дабраўся да Варшавы, а адтуль, дзякуючы сп. К. Мерляку — да Ўсходняй Прусіі. З Прусіі ўдалося трапіць у Рэгенсбург, дзе па вайне быў створаны лягер для «перамешчаных асобаў» (ДП).

У ЗША сям'я Бітуса прыехала ў 1951 годзе і пасялілася ў гор. Саўт-Рывэры, дзе была ўжо вялікая колькасьць беларусаў. У недалёкім гор. Нью-Брансьвіку арганізавалася парафія Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, да якой далучылася і сям'я Бітуса.

У 1953 г. я вярнуўся з гор. Дэтройту ў Саўт-Рывэр, дзе жыў раней (1950-52 гг.), і 18 ліпеня 1954 г. ажаніўся са сьв. пам. Нінай, узяўшы пад апеку сям'ю Бітуса.

Супольнымі сіламі пабудавалі свой дом у Саўт-Рывэры, пасяліўшыся ў ім у 1955 годзе. Жонка Ніна запрашала да сябе маладых суродзічаў, вучыла іх беларускіх народных танцаў, што й дало пачатак танцавальнаму гуртку ў Нью-Джэрзі. Каб пашырыць дзейнасьць гуртка, дзякуючы стараньням Аўгена Лысюка, ньюджэрзійскія танцаўнікі далучаюцца да сваіх сяброў зь Нью-Ёрку, дзе пад фаховым кіраўніцтвам др. Алы Орса-Рамана заснаваўся ведамы танцавальны гурток «Васілёк», што здабыў добрую славу ў Злучаных Штатах і на Беларусі, з чаго вельмі цешылася мая Ніна.

Калі мы перасталі працаваць фізычна, нябожчыца захацела пераехаць у штат Мэйн, дзе клімат вельмі нагадвае Беларусь, нашую Бацькаўшчыну.

Пасьля доўгае хваробы, нябожчыца ціха скончыла жыцьцёвы шлях у доме для вхорых.

Вечная ёй памяць і Царства Нябеснае.

Я заўсёды буду з Табой, мая ты спадарожніца жыцьця! **Павел Кулеш**

### ШУКАЮЦЬ СВАЯКОЎ

Мастак **Леанід Дударанка** шукае сваякоў з ЗША: **Саўчыца Аркадзя з жонкай Софіяй і Саўчыца Рыгора з жонкай Аленай дзецьмі Маркам і Кацяй.** Просім паведаміць у рэдакцыю «Беларуса».

**Саханько Мікалай Іванавіч** з Баранавіч шукае сваякоў у Аўстраліі: **Саўчык Ніну Рыгораўну** (год нарадж. паміж 1920 і 1923) і **Саўчык Вольгу Рыгораўну** (год нарадж. паміж 1900 і 1905; замужняе прозьвішча Дудзік) зь вёскі Любішчы ў заходняй Беларусі. Дзеці Ніны й Вольгі з дому Саўчык жывуць у Аўстраліі. Калі хто ведае што-небудзь пра іх, просіцца паведаміць Мікалаю Саханьку на адрас: Саханько Мікалай І., Баранавічы, вул. Наканечнікава 1/78, 225320 Рэспубліка Беларусь.

### ДА ЗЬЕЗДУ БЕЛАРУСАЎ СЬВЕТУ




Жэтон (нагрудны значок) — выданьне газэты «Беларус». Цана — 1 даляр за штуку.

### *ПЫТАНЬНЕ ПАШТОВЫХ МАРАК БУЛАК-БАЛАХОВІЧА*

Дасьледнік Станлі Горнбі зрабіў грунтоўную спробу разабрацца ў абставінах, у якіх была выпушчаная ў сьвет увесну 1920 году сэрыя пяцёх паштовых марак «Асобны атрад БНР», ведамых пад назовам «балахоўкі». Артыкул Горнбі апублікаваны ў ангельскім часапісе "British Journal of Russian Philately" № 72 (сс. 36-41а). Нумар датаваны восеняй 1992 году, але выйшаў спозьнена ў красавіку сёлета.

Артыкул Горнбі мае цікавасьць ня толькі для філятэлістаў, але й для гісторыкаў. Аўтар базуецца часткава на знойдзеных у брытанскіх архівах дакумэнтах, дасюль непублікаваных, і дае даволі дакладныя весткі пра атрад ген. Булак-Балаховіча ў 1919-1920 гг., піша пра ягоныя дачыненьні да Рады БНР. Насьвятляецца роля Канстантына Езавітава як кіраўніка ваеннай місіі БНР у Латвіі.

Што да марак «Асобнага атраду БНР», дык, на думку дасьледніка, яны ня былі запраўднымі маркамі, іх можна назваць па-рознаму — прапагандавымі налепкамі, прыватным выпускам або хвальшыўкамі. Ён пакідае гэтае пытаньне адкрытым. Але зазначае, што маркі «Асобнага атраду» нельга разглядаць як самыя звычайныя маркі рэвалюцыйнага пэрыяду. Можа яны й звычайныя, кажа дасьледнік, але яны маюць свой пачатак у гістарычнай рэальнасьці свайго часу.

Артыкул ілюстраваны рэдкім партрэтам Булак-Балаховіча.

### ДАПАМОГА МЕНСКАЙ ШКОЛЕ № 131

На зьмешчаны ў № 394 «Беларуса» заклік аб грашовай дапамозе беларускай школе ў менскім раёне Чыжоўка (школа № 131) шчодра адгукнуліся наступныя асобы:

М. Баяроўскі — анг. ф. 20, С. Будкевіч — анг. ф. 20, В. Еўдакімаў — анг. ф. 20, М. Швэдзюк — анг. ф. 50, Ф. Верамейка — анг. ф. 20, Я. Запруднік — ам. д. 100.

Падаём яшчэ раз адрас з гарачай просьбай пасылаць далейшыя ахвяраваньні на школу № 131 у работніцкім раёне Менску, якая апынулася ў цяжкім эканамічным становішчы. Ваша дапамога будзе ня толькі фінансавай, але й ня менш значнай маральнай падтрымкай беларускага школьніцтва, справы ўзгадоўваньня новага пакаленьня беларусаў.

Пашлеце свой асабісты чэк на якуюхацяя суму на наступны адрас:

Prof. J. Dingley
SSEES
University of London
Malet Street
London WCE 7HU
ENGLAND

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

*Прыслалі беспасярэдня ў Рэдакцыю:*

| | |
|---|---|
| М. Дэмковіч | 200 |
| М. і В. Махнач | 50 |
| Н. Жызьнеўскі | 50 |
| В. Рамук | 30 |
| Т. Бэрд | 25 |
| В. Генюк | 25 |
| Р. Кардонскі | 15 |
| Б. Паўк | 10 |

*Праз нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча:*

Замест кветак на магілу с. п. Ніны Кулеш Б. Русак — ам. д. 25

*Падпіска й ахвяры:*

| | |
|---|---|
| В. Плескач | 75 |
| М. Смаршчок | 75 |
| В. Кажан | 50 |
| М. Сіцко | 50 |
| М. Тулейка | 50 |
| а. В. Андрэюк | 50 |
| Я. Сажыч | 50 |
| Б. Русак | 40 |
| У. Пелеса | 30 |
| Л. Саковіч | 30 |
| Я. Літвіненка | 30 |
| А. Акановіч | 30 |
| П. Скепка | 30 |
| С. Янкоўскі | 30 |
| В. Кабушка | 25 |
| А. Балкоўскі | 25 |
| М. Малочка | 25 |
| Г. Гэльвіг | 25 |
| С. Мажэйка | 25 |
| Л. Бакуновіч | 25 |
| В. Мельяновіч | 25 |
| А. Кузьміч | 25 |
| Я. Т. Бабіцкі | 25 |
| Р. Губэрт | 25 |
| Л. Махнюк | 25 |
| А. Магаліф | 25 |
| Э. Маркоўская | 25 |
| а. А. Яноўскі | 25 |
| А. Занковіч | 25 |
| А. Васанскі | 25 |
| Ю. Стагановіч | 25 |
| І. Калоша | 25 |
| Усяго | 1095 |

## МІЖНАРОДНАЯ СЛАВА БЕЛАРУСКІХ ГІМНАСТАЎ

Першы раз у гісторыі Англіі, пасьля 104 гадоў існаваньня Сусьветнай Фэдэрацыі Гімнастыкі, гімнастычныя спаборніцтвы адбыліся ў горадзе Бірмінгаме (13-18.04.93). У іх узялі ўдзел прадстаўнікі 62-х нацыяў. Беларуская дэлегацыя складалася з трох дзяўчат і трох хлапцоў, маладых здольных людзей. Кожны зь іх меў на грудзях бел-чырвона-белую эмблему, а на плячах надпіс «Беларусь». Заля спаборніцтваў была ўдэкараваная сьцягамі дзяржаваў, што бралі ўдзел у спаборніцтвах.

З усіх спартсмэнаў найлепш выявіў сябе Віталі Шчэрба, чэмпіён у гімнастыцы на Алімпіядзе ў Барсэлёне. Тут беларускі гімнаст таксама быў найлепшым ува ўсіх відах спаборніцтваў, заняў першае месца ў фінале. Ён меў шмат падтрымкі ад гледачоў, асабліва дзяцей, якія скандавалі: «Віталі-Віталі».

Чацьвертае месца заняў другі малады беларус зь Менску — Іван Іванкоў. Я меў нагоду пагутарыць з гэтым вельмі прыемным хлапцом і прадбачваю пасьля нагляданьня за ягоным выступленьнем, што за два гады ён станецца сусьветным чэмпіёнам.

Я быў вельмі ўзрушаны, назіраючы за посьпехам беларускіх спартсмэнаў і іхнай удачай у папулярызаваньні імя беларускага народу на міжнароднай арэне.

Бірмінгам, Англія

**М. Баяроўскі**

***З жыцьцяў у Нью-Ёрку***

## У БЕЛАРУСКІМ ІНСТЫТУЦЕ НАВУКІ І МАСТАЦТВА

24 красавіка **др. Янка Запруднік** прачытаў даклад на тэму «Праблемы ўзаемасувязі нацыянальнай сьведамасьці беларусаў і замежнай палітыкі Рэспублікі Беларусь». Дакладчык зрабіў спробу аналізу розных узроўняў сьведамасьці (этнічная, нацыянальна-культурная і дзяржаўніцка-палітычная); гаварыў пра адлюстраваньне беларускай нацыянальнай сьведамасьці ў літаратуры ды пра слабое абмяркоўваньне пытаньняў замежнае палітыкі ў сучаснай Беларусі, дзе дасюль яшчэ няма ніводнага выданьня, якое спэцыялізавалася-б у гэтай важнай галіне дзяржаўнага існаваньня.

15 травеня **сп. Лявон Юрэвіч** прачытаў даклад на тэму "Гістарычны раман Язэпа Дылы 'На шляху з варагаў у грэкі'". Дакладчык азнаёміў слухачоў з творчасьцяй Язэпа Дылы (псэўд. Назар Бываеўскі, Тодар Кулеш і інш.), палітычнага й культурнага дзеяча часоў рэвалюцыі і НЭПу. Язэп Дыла стаўся ахвярай бальшавіцкіх рэпрэсіяў на пачатку 1930-х гадоў і пражыў рэшту жыцьця на выгнаньні ў Расеі. Як пісьменьнік, ён распрацоўваў гістарычную тэматыку. У гісторыі беларускай літаратуры, сказаў дакладчык, да зьяўленьня Уладзімера Караткевіча была пэўная традыцыя распрацоўваньня тэмаў зь беларускае мінуўшчыны, але пытаньне гэтае застаецца яшчэ слаба дасьледаваным.

### НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД БІНІМ

| | |
|---|---|
| І. і Я. Сурвілла (у памяць М. Карповіча) | ам. д. 100 |
| У памяць М. Кіпель: | |
| І. і Я. Сурвілла | 100 |
| В. і В. Рамук | 100 |
| І. Каханоўская | 50 |
| К. Ворт | 50 |
| Л. Вініцкі | 25 |
| С. і К. Вініцкія | 25 |
| Ахвяры: | |
| др. М. Смарчшок | 100 |
| М. і В. Сьнежкі | 50 |

## BELARUSIAN REVIEW, Vol. 5, No. 1, Spring 1993

На 24 старонках уборыстага друку сьвежы й цікавы матар'ял: ліст ад Прэзыдэнта Клінтана; рэдакцыйныя артыкулы пра калектыўную абарону, радыё «Свабода» ды сьвяткаваньне 25 Сакавіка ў Беларусі. Асабліва заслугоўвае на ўвагу артыкул Арта Турэвіча пра націск кансэрватараў у Вярхоўным Сакавіка ў Беларусі. Асабліва заслугоўвае на ўвагу артыкул Арта Турэвіча працэсу дэмакратызацыі ў Беларусі і палажэньня з правамі чалавека.

Квартальнік «Беларускі Агляд» карыстаецца ўсё большай папулярнасьцяй як у замежжы, гэтак і ў Беларусі. У Беларусі яго выкарыстоўваюць ня толькі як крыніцу інфармацыі, але й як дапаможнік пры вывучэньні ангельскай мовы.

Вашу падпіску (25 дал. на год) і грашовыя ахвяры на гэтае незаменнае выданьне шлеце на адрас: Belarusian Review, P.O. Box 10353, Torrance, CA 90505.

## СУВЭНІР СП. СТ. ШУШКЕВІЧУ — ТВОРЫ Р. КРУШЫНЫ

Сп. Ігар Казак, сын ведамага беларускага паэта Рыгора Казака (псэўданім — Рыгор Крушына), быў у красавіку сёлета ў Менску ў складзе амэрыкаскае дэлегацыі па справах раззбраеньня, ачольванае паслом Джэймсам Гудбі. Пасьля абладжаньня дзяржаўных справаў сп. Казак меў нагоду спаткацца 28 красавіка са Старшынём Вярхоўнага Савету рэспублікі сп. Станіславам Шушкевічам, якому ён перадаў, як сувэнір, зборнік вершаў свайго пакойнага бацькі "Вячорная лірыка". Станіслаў Шушкевіч — таксама сын паэта. Некалі ў сваёй маладосьці бацькі Ігара Казака й Станіслава Шушкевіча былі блізкімі сябрамі. Сустрэча сыноў — адзін з выпадкаў, які пацьвярджае праўдзівасьць евангельскіх слоў пра немагчымасьць прадугадваньня шляхоў, якімі чалавеку даводзіцца ісьці праз жыцьцё.

## ЛЕТНІ СЭЗОН У БЭЛЕР-МЕНСКУ

Сэзон пачнецца 3-га ліпеня. Прадбачыцца наступная праграма:

3 ліпеня (сыбота): вечарына (грае аркестра Пятра Скепкі).

4 ліпеня (нядзеля): Дзень Беларускага Жаўнера — літургія й малебен; папаўдні — пікнік.

31 ліпеня — 1 жніўня (сыбота — нядзеля): 29-я Спартовая сустрэча беларуска-амэрыканскае моладзі. У сыботу — вечарына й выбары «Міс спорт». Музыка Пятра Скепкі.

7 жніўня (сыбота): вечарына пад музыку П. Скепкі.

8 жніўня (нядзеля): Фэст. Сьвяткаваньне Дня Смаленскай іконы Божае Маці. Пасьля багаслужбы — міжпарафіяльны пікнік.

4 верасьня (сыбота): вечарына пад музыку П. Скепкі.

5 верасьня (нядзеля): папаўдні — агульны пікнік.

6 верасьня (сьвята працы): заканчэньне сэзону.

18 верасьня (сыбота): заключная імпрэза на рэсорце — «Дажынкі» (супольны абед; танцы пад музыку П. Скепкі).

Пачынаючы ад 21 чэрвеня, просім тэлефанаваць у Бэлер-Менск да мэнаджэра ў гадзінах ад 10-й раніцы да 12-й поўдня і ад 6-й да 8-й увечары на нумар (той самы, што й летась): (914) 856-8532.

Праводзьце вольны час і адпачынак у сваім беларускім рэсорце!

**Адміністрацыя Бэлер-Менску**

**LEHMAN CENTER FOR THE PERFORMING ARTS**
**250 Bedford Park Blvd West**
**Bronx, New York**

**БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ!**

**У выкананьні выдатнага ансамблю Валянтыны, Алеся й Олі Казакоў**
прагучаць на канцэрце ў тэатры Ліманаўскага Каледжу ў Нью-Ёрку
(Lovinger Theatre)
**у нядзелю 13 чэрвеня 1993 (3-я гадз. папаўдні)**
У канцэрце возьме таксама ўдзел ансамбль кельцкае музыкі.
Уступ — тры даляры.
Па білеты й інфармацыю тэлефанаваць на нумар:
(718) 548-8879
Даезд да тэатру лёгкі аўтобусам, мэтро або аўтамабілем.

**Віншуем!**

**ЖЭНЮ МІЦКЕВІЧ**

зь 70-мі ўгодкамі жыцьця,
якія прыпалі на 16 красавіка гэтага году. Усе гады пражыла яна ў Мікалаеўшчыне, зазнала шмат гора й бяды. Верная беларускай мове, яна працуе яшчэ ў Музэі імя Якуба Коласа ў Смольні, сьпявае ў мікалаеўскім хоры. І якраз, калі засьвяціў прамень Адраджэньня старонкі Беларусі, страціла мужа й сына, у чым ёй спачуваем, а заадно й жадаем добрага здароўя й надзеі на лепшыя гады.

**Родныя з Амэрыкі**

## ЧАСАПІС НОВАГА ПРОФІЛЮ — АРХІЎНЫ

У Вільні ў сакавіку сёлета выйшаў новы беларускі часапіс — Acta Archivalia Alboruthenica, які выдаецца Таварыствам Беларускага Пісьменства ў Вільні пад патранатам Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку. Часапіс заплянаваны як месячнік. Заданьні сфармуляваныя ў перадавіцы першага нумару гэтак: «Падаваць зьвесткі аб беларускіх матар'ялах, якія захоўваюцца ў віленскіх бібліятэках, музэях і архівах. Стратэгічнаю задачаю выдаўцоў была-б рэгістрацыя й апісаньне ўсяе віленскае альбарутэнікі».

Відавочна, як зазначаюць выдаўцы часапісу, зьдзейсьніць пастаўленыя мэты будзе ня так лёгка, бо матар'яльныя й працоўныя рэсурсы віленскае беларускае грамады абмежаныя.

У першым нумары часапісу даюцца дэталёвыя вопісы архіваў зь дзейнасьці Рады БНР: пратаколаў паседжаньняў міністраў, асабістай перапіскі старшыні Рады БНР Язэпа Варонкі з Антонам Луцкевічам ды іншых дакумэнтаў. Важна падкрэсьліць новае ў нашай архіўальна-дакумэнтальнай літаратуры зьявішча: у часапісе падаюцца кодавыя дадзеныя ды інфармацыйныя анатацыі да шмат якіх дакумэнтаў. Бясспрэчна, гэты часапіс адыграе вялікую дапаможную ролю пры далейшым распрацоўваньні гісторыі Беларусі.

Выдаўцы падкрэсьляюць, што часапіс будзе выходзіць вельмі лімітаваным тыражом і, каб пранумэраваць выданьне, трэба зьвярнуцца на адрас рэдактара часапісу: Siarhiej Supa, Vasaros 7, 2055 Vilnius, Lithuania.

## «ГОЛАС ЧАСУ» № 2, 1993

У нумары (42 ст.): Ю. В-скі — Хрыстос Васкрос! (верш); А. Асіповіч — Пазнаць Бога праз любоў; Заява й пастановы ўдзельнікаў Першага сходу беларусаў блізкага замежжа; Ст. Валодзька — Рабы (верш); Сьцяжко — Па залах музэя А. Белакоза; А. Баханчык — Як улады сувэрэннай Беларусі адзначылі гадавіны дзьвюх гістарычных падзей; Ю. Весялкоўскі — за плотам Катыньскага лесу; Зварот кіраўнікоў беларускіх арганізацыяў у Аўстраліі да Рады Міністраў і Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь; Ю. Сьвяржынскі — Язафат Кунцэвіч і яго памагатыя; Ул. Паддубны — Там, дзе хадзіла сьмерць; Я. Ш. — Маліся ты, матуленька Богу (верш); Ю. Весялкоўскі — Сьмерць Канстанціна Вялікага; Хіжацкія інстынкты палякаў; абвесткі, хроніка, лісты ў рэдакцыю.

## «ЗВАЖАЙ», № 2, красавік 1993

У нумары:

Ухвала Сойму БНФ «Адраджэньне» пра стаўленьне да Зьезду беларусаў сьвету; Заява Рады Згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына»; В. Сяньkевіч — З успамінаў пра СБМ; К. Акула — Канада — збанкрутаваная прынада; Пятро Скепа не адказаў; Сьв. пам. М. Скабей; Я. Запруднік — Сьв. пам. С. Гутырчык; верш а. Я. Гэрмановіча «З павіншаваньнем Новага 1962 году»; Хто каго не разумее? (рэпліка «ЛіМу»).

## «ПОЛАЦАК» № 2(22), 1993

Сваім 22-м нумарам «Полацак» пачаў 3-ці год выхаду.

У нумары (64 ілюстраваныя старонкі): перадавіца — Два гады; інтэрв'ю Анатоля Белага з Васілём Быкавам; М. Белямук — Тапаграфія знаходак манэт і аздобаў: I. Saverchenko, Olga McDermott — Golden Age Gleam. Commemorating the 400th Anniversary of S. Budny's Death; Я. Юхо — Кароткі нарыс дзяржавы гісторыі Беларусі. Крэўская і Гарадзельская вуніі; П. Урбан — Да пытаньня этнічнай прыналежнасьці старажытных ліцьвіноў; М. Сташкевіч, Р. Платонаў — Прарыў у трагічную будучыню. Рада (БНР) прымае 3-ю Ўстаўную Грамату; С. Белая — Віленскія беларусы расказваюць; А. Шукелойць — Некалькі штрыхоў да партрэту Анатоля Бярозкі; М. Рэпкаў-Смаршчок — Крыху пра Язэпа Пушчу ды ягоныя «Лісты да сабакі»; Уласнаручныя паказаньні Канстантына Езавітава; М. Сяднёў — Паэты вонках плыні; М. Сяднёў — Чалавек і прырода; С. Сачанка — вершы; В. Супрун — вершы; М. Кавыль — З агню ды ў полымя (працяг раману); С. Белая — Туды, дзе нашы карані; А. Мальдзіс — «Беларусы ў сьвеце»; а. М. Страпко — Вялікі пост; хроніка.

## ЗАПРАШЭНЬНЕ МАСТАКАМ ЗАМЕЖЖА ДА ЎДЗЕЛУ Ў ВЫСТАЎЦЫ Ў МЕНСКУ

Урадавыя ўстановы ў Беларусі прынялі пастанову аб правядзеньні мастацкай выставы «Жыве Беларусь!» у канцы чэрвеня-пачатку ліпеня сёлета. Выстава будзе прысьвечана першаму зьезду беларусаў сьвету. Да ўдзелу ў выставе запрашаюцца мастакі-беларусы з замежжа (па дзьве работы ад удзельніка). («Культура» № 12/93)

# ГІСТОРЫЯ ПАЎТАРАЕЦЦА

У 396-м нумары «Беларуса» (за сьнежань 1992 г.) быў зьмешчаны артыкул Аркадзя Будзіча пад заг. «Беларусь — Ватыкан — Польшча», а пад ім кароткая зацемка «Каталіцкія парафіі растуць». Артыкул і зацемка выклікалі ў мяне прыгнятальны, змрочны настрой і навялі на сумны роздум. Гісторыя паўтараецца. Ізноў пачалася польская каталіцкая экспансія на Беларусі, якая ў мінулых стагодзьдзях прынясла нашаму народу столькі цярпеньняў і гора. Тэма, закранутая ў артыкуле, на вялікі жаль, балюча актуальная для нас, беларусаў, і сёньня і, баюся, яшчэ доўга будзе актуальнай.

Аўтар артыкулу, паведамілыўшы, што ў англамоўным выданьні ватыканскай газэты "L'Osservatore Romano" (№ 46, 18.XI) быў зьмешчаны вялікі артыкул пад заг. «Гісторыя хрысьціянства на Беларусі», у якім няведамы аўтар (праўдападобна паляк) двойчы падаў лік «амаль 2.000.000 каталікоў у Беларусі», далей піша, што «трэба мець на ўвазе частыя заявы ў польскім сьвецкім і касьцельным друку аб тым, што на Беларусі жыве два мільёны палякоў». Гэтыя «частыя заявы» або ад няведаньня, або, хутчэй за ўсё — звычайная, сьведамая хлусьня. Як вядома, па выезьдзе палякоў падчас паваеннай рэпатрыяцыі ў 1945 годзе й пазьней Польшчу (дарэчы, разам з палякамі выехала тады ў Польшчу таксама даволі шмат беларусаў, нават праваслаўных, якія хацелі вырвацца з бальшавіцкага «раю»), сёньня на Беларусі іх (палякоў) практычна няма. Гэтыя два мільёны каталікоў на Беларусі, лік якіх падае ватыканская газэта — гэта, ясная рэч, беларусы-каталікі, а не палякі. Хоць паводля «Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі» на Беларусі налічваецца 382,600 (4.3%) палякоў (паводле статыстычных дадзеных з 1970 году), але-ж гэта пераважна не этнічныя палякі, а адурманеныя польскімі ксяндзамі, нацыянальна нясьведамыя, беларускамоўныя, этнічныя беларусы-каталікі, якія атаясамліваюць каталіцызм з польшчынай («польская вера») і рэнэгаты.

Перад Другой сусьветнай вайной у Заходняй Беларусі, далучанай па Рыжскім трактаце да Польшчы, жыло няшмат этнічных палякоў, але гэта быў элемэнт наезны: насланыя з этнаграфічнай Польшчы паліцыянты, вайсковыя й цывільныя асаднікі, урадаўцы, настаўнікі й ксяндзы. Інакш, як акупантамі, іх назваць было нельга. Залічалі сябе да палякоў апалячаныя буйныя землеўладальнікі (паны) і беларуская каталіцкая шляхта.

Беларусы пад Польшчай былі на сваёй зямлі грамадзянамі другой клясы, асабліва за часамі панаваньня санацыі, калі прасьледавалася ўсё, што беларускае. Беларусы не маглі займаць дзяржаўных становішчаў, але ў польскае войска іх прымусова бралі. З мэтай поўнай дэнацыяналізацыі беларусаў польскія ўлады прасьледвалі беларускае каталіцкае духавенства (асабліва жорсткімі прасьледавальнікамі былі віленскі ваявода Людвік Бацянскі й віленскі каталіцкі мітрапаліт Рамуальд Ялбжыкоўскі), грамадзка-палітычных і нацыянальных дзеячоў (амаль усе беларускія пасланы польскага Сойму й сэнатары былі арыштаваныя, засуджаныя на шматгадовае зьняволеньне й пасаджаныя ў турму), ліквідавалі беларускае школьніцтва (пасьля ліквідацыі пачатковых і сярэдніх школаў, у 1939 годзе толькі ў Вільні існавала яшчэ адзіная беларуская гімназія) і беларускія грамадзкія й культурна-асьветныя арганізацыі.

Каб ня быць абвінавачаным палякамі ў галаслоўнасьці, зацытую з польскай крыніцы, а менавіта з найстарэйшай у Амэрыцы польскай газэты «Гвязда Полярна» (8.X.1977) фрагмэнт з разьдзелу «Гутарка з Чытачамі». Вось што было напісана ў гэтай газэце:

«Можам спадзявацца, што ніхто із здаровадумаючых беларусаў, якія па польска-бальшавіцкай вайне ў 1920 годзе апынуліся на польскім баку, ня крыўдзіцца на польскі народ як такі, ці на краіну, у якой ім давялося жыць 20 гадоў. Аднак справядліва крыўдзіцца могуць на тагачасныя польскія ўлады, якія ад самага пачатку адраджэньня міжваеннай Польшчы вялі адносна беларускай меншасьці непрадуманую, поўную кардынальных памылак палітыку. Мы, палякі, ня любім наогул да гэтага прызнавацца, мяркуючы, што 'спольшчваньне' было функцыяй натуральнай і чалавечнай. І толькі сёньня, калі мы пачалі гаварыць сабе праўду ў вочы, калі аб тагачасных мэтадах 'спольшчваньня' мы больш ведаем, пачынаем разумець і другі бок і — трэба мець надзею — высунем сабе з гэтага разумную лекцыю на будучыню».

Перанясемся цяпер у XIV стагодзьдзе й пазьнейшыя часы. Пасьля хрышчэньня паганскай этнічнай Літвы (аўкштотаў у 1387 і жмудзінаў у 1413 годзе) польскі кароль Ягайла, які, быўшы яшчэ вялікім князем літоўскім, пакінуў у 1386 годзе праваслаўе й перайшоў у каталіцтва, падтрымоўваў польскую каталіцкую экспансію ня толькі ў нядаўна ахрышчаных Аўкштоце і Жмудзі, але і ў большай, пераважаючай часьці Вялікага Княства Літоўскага (ВКЛ) — на здаўна, бо ўжо ад X стагодзьдзя хрысьціянскай, грэцкага (бізантыйскага) абраду, г. зн. праваслаўнай, Беларусі. (У 1988 г. беларусы на Бацькаўшчыне й на чужыне ўрачыста сьвяткавалі 1000-годзьдзе хрысьціянства на Беларусі.) Ягайла, які ў 1385 годзе заключыў у Крэве пэрсанальную вунію з Польшчай, зрабіў каталіцтва дзяржаўнай рэлігіяй у цэлым ВКЛ і ўсялякімі спосабамі спрыяў яе пашырэньню. Каб заманіць праваслаўных беларускіх магнатаў у каталіцтва, даў ім дадатковыя прывілегіі й свабоды, якія зраўнялі іх з польскімі магнатамі. Дык многія зь іх перайшлі ў каталіцтва і з часам апалячыліся. Аднак значная частка магнатаў асталася вернай праваслаўю, але пазьней іхныя патомкі прынялі каталіцтва й таксама апалячыліся. Таксама беларуская шляхта часткова апалячылася, бо каталіцызм быў пашыраны ў ВКЛ як «вера польская» ў польскай мове. Школьніцтва было ў руках польскіх каталіцкіх манахаў, пераважна езуітаў.

Выдатны польскі публіцыст і гісторык Ян Юзэф Ліпскі, у сваім вялікім артыкуле «Дзьве бацькаўшчыны — два патрыятызмы» ў польскім парыжскім часапісе «Культура» (з кастрычніка 1981 г.), пішучы аб беларускім, летувіскім і ўкраінскім народах, між іншым кажа: «Палянізацыя шляхоцкіх элітаў у Літве й на Русі (аўтар мае на ўвазе ВКЛ і Украіну — У. Б.) сапхнула гэтыя народы ў рад «негістарычных» народнасьцяў, якія ажно толькі ў другой палавіне XIX стагодзьдзя зь цяжкасьцю пачалі ствараць свае новыя эліты, інтэлігенцыю».

Палянізацыя значна ўзмоцнілася пасьля Люблінскай вуніі (1569 г.) і асабліва пасьля царкоўнай Берасьцейскай вуніі (1596 г.). Пасланы ВКЛ на сойме ў Любліне былі супраць вуніі з Польшчай і, хочучы захаваць незалежнасьць сваёй Бацькаўшчыне, упорыста ёй супраціўляліся. Галоўнымі праціўнікамі вуніі з Польшчай былі: віленскі ваявода князь Мікалай Радзівіл Рыжы, жмудзкі староста Ян Хадкевіч, берасьцейскі староста Еўстафі Валовіч, падскарбі літоўскі Мікалай Нарушэвіч і кашталян віцебскі Павал Пац. Берасьцейская вунія таксама мела сваіх праціўнікаў, зь якіх найбольш сільнымі былі князь Канстантын Астрожскі і навагрудзкі ваявода Тодар Скумін-Тышкевіч. Перамаглі аднак прыхільнікі вуніі з Рымскай Царквой, якіх моцна падтрымоўваў і панукаў польскі кароль Жыгімонт III Ваза, заўзяты аж да фанатызму каталік, бо амаль усе праваслаўныя япіскапы ў Рэчыпаспалітай зь мітрапалітам Міхаілам Рагозам на чале выйшлі з-пад юрысдыкцыі Канстантынопальскага патрыярха і, захоўваючы ўсходні (бізантыйскі) абрад, падпарадкаваліся Рымскаму папу Клемэнсу VIII. Звабілі іх абяцаньнем (якое, зрэшты, ніколі ня было датрымана), што зоймуць месцы у Сэнаце разам з польскімі каталіцкімі япіскапамі. І так узьнікла ў Рэчыпаспалітай Вуніяцкая (грэка-каталіцкая) Царква.

Трэба пры гэтым зазначыць, што два япіскапы, а менавіта львоўскі Гедэон Балабан і пярэмышльскі Міхаіл Капысьценскі, захоўваючы вернасьць Праваслаўнай Царкве, ад вуніі з Каталіцкай Царквой адмовіліся. Праваслаўных, якія не перайшлі ў вунію, дзяржаўныя ўлады й вуніяты пачалі прасьледаваць. Асабліва жорстка прасьледваў іх выхаванец віленскіх езуітаў, заядлы пашыральнік царкоўнай вуніі на Беларусі, полацкі вуніяцкі архіяпіскап Язафат Кунцэвіч. Маючы падтрымку караля Жыгімонта III Вазы й полацкага ваяводы, вытвараў жудасныя рэчы: сілай адбіраў ад праваслаўных іхныя цэрквы (у Полацку й Віцебску адабраў усе цэрквы й манастыры), часовыя цэрквы ў шалашах разбураў, садзіў у турмы непакорных праваслаўных сьвятароў, загадаў выкопваць на магільніках трупы непакорных праваслаўных нябожчыкаў і кідаць іх сабакам. Канцлер ВКЛ, князь Леў Сапега безрэзультатна паўстрымоўваў ягоны фанатычны запал, перасьцерагаючы перад дрэннымі наступствамі. Раніцай 12 лістапада 1623 г. ў Віцебску, узбураны эксцэсамі Кунцэвіча, пад гул званоў паўстаў віцебскі натоўп мяшчанаў з бурмістрам гораду Лявонам Ваўком на чале, уварваўся ў ягоную рэзыдэнцыю й яго забіў, а цела ўкінуў у Дзьвіну. Папа Урбан III зажадаў ад караля суровага пакараньня забойцаў Кунцэвіча. 10 лютага 1624 г. выслаў да яго ліст, у якім пісаў: «Суровасьць забойцаў не павінна застацца непакаранай. Там, дзе такое цяжкое злачынства вымагае бічоў помсты Божай, няхай будзе выкляты той, хто паўстрымае свой меч ад крыві. І ты, дзяржаўны, не павінен устрымацца ад мяча й агню; няхай ерась адчуе, што суровым злачынцам няма літасьці». Каралеўскі суд засудзіў 98 праваднікоў і актыўных удзельнікаў паўстаньня на кару сьмерці, зь якіх 78 завочна. Сярод пакараных былі першыя бурмістры Віцебска й Полацка. Віцебск быў пазбаўлены магдэбурскага права. А архіяпіскапа Кунцэвіча рымскі папа залучыў у лік сьвятых. Жыгімонт III Ваза сваёй недальнабачнай, згубнай для Рэчыпаспалітай палітыкай пхаў праваслаўных у абдымкі Масквы. Прасьледваньне праваслаўных шмат спрычынілася да казацкіх паўстаньняў і войнаў. Праваслаўны берасьцейскі ігумен Апанас (Філіповіч), двойчы (у 1641 і ў 1643 г.) выступаючы у Сойме ў абароне праваслаўных, крытыкаваў царкоўную палітыку ўраду. Абвінавачаны ў аказаньні помачы казакам Багдана Хмяльніцкага і ў распаўсюджваньні лістовак, быў засуджаны на кару сьмерці й застрэлены. Праваслаўная Царква залучыла яго ў лік сьвятых.

*(Заканчэньне ў наступным нумары)*

**Уладзімер Брылеўскі**

## *ПЕРАСЬЦЯРОГА ПЕРАД НАЦЫЯНАЛІЗМАМ*

Папа Ян Павал II ў часе свайго наведаньня Альбаніі сказаў: («Нью-Ёрк Таймс», 26.04.93):

«Запраўдная рэлігійная свабода ўхіляецца ад спакусы неталерантнасьці й сэктанцтва. Не дапушчайцеся да таго, каб пачуцьцё нацыі, якое вы моцна адчуваеце ў гэты мамэнт, выраджалася ў свайго роду неталерантнасьць і агрэсыўны нацыяналізм, які ўсё йшчэ спараджае ахвяры сёньня і выклікае зацятую нянавісьць у некалькіх частках сьвету, у тым ліку і недалёка адсюль».

У тым ліку сярод палякоў на Беласточчыне.

## ВАЕННЫ ПАКТ БЕЛАРУСІ З ПОЛЬШЧАЙ

Выдаваны ў Вашынгтоне «Агляд паведамленьняў замежных радыястанцыяў» (FBIS-SOV, 13 May 93, p.45) падаў за менскай газэтай «Во славу Родины» (4.05.93) тэкст падпісанага 21 красавіка сёлета на пяць гадоў беларуска-польскага ваеннага пакту, які прадбачыць двубаковыя кантакты ў ваеннай, навуковай, тэхналягічнай, культурнай і адукацыйнай сфэрах.

## ЗГУРТАВАНЬНЮ БЕЛАРУСАЎ ШТАТУ ІЛІНОЙ 40 ГОД

У чэрвені сёлета споўніцца 40 гадоў ад часу заснаваньня (28.06.1953 г.) Згуртаваньня Беларусаў Штату Іліной. Беларуска-Амэрыканскае Задіночаньне, Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва і газэта «Беларус» вітаюць кіраўніцтва й сяброў Згуртаваньня ды жадаюць далейшых удачаў у грамадзкай і палітычнай працы.

## «ВЯРТАНЬНЕ — RETURN»

Пад гэткім загалоўкам быў выдадзены летась у Менску каталёг (28 ст.) з каляровымі рэпрадукцыямі абразоў мастачкі Галіны Русак, творы якой экспанаваліся ў Беларусі. У ўступным слове да выданьня Юрась Карачун, дырэктар Дзяржаўнага мастацкага музэю Беларусі, піша: «Сярод выстаў, наладжаных у 1992 годзе ў Дзяржаўным мастацкім музэі Беларусі, асобнае месца належыць экспазыцыі твораў мастачкі-беларускі, што жыве ў ЗША — Галіны Русак. Гэтая выстава — ня толькі жаданая сустрэча роднай зямлі са сваёю дачкою і яе творчасьцю, але й спроба спасьціжэньня нашай нацыянальнай культуры замежжа, якой амаль ня ведаем».

У ўводным артыкуле да каталёгу мастацтвазнаўца Валянцін Сельвясюк гэтак характарызуе творчасьць Г. Русак:

«Прыемным сюрпрызам зьяўляецца адкрыцьцё сьвету вобразаў Галіны Русак. Яна пакінула Беларусь больш як сорак гадоў таму, але захавала ў памяці старадаўныя легенды й казкі. Малявала, аднак, пачала толькі па прыезьдзе ў Злучаныя Штаты. Мастацтва Галіны Русак — гэта спалучэньне ейнага амэрыканскага досьведу й адукацыі зь беларускімі вытокамі, таямнічасьці мінулага з сучасным стылем. ... Хаця ейная творчасьць абапіраецца ў вялікай меры на матывы беларускага фальклёру, яна зусім ня мае фальклёрнага характару, бо традыцыйны зьмест інтэрпрэтаваны таленавітай асобаю. Мастацтва Галіны Русак мае ўнівэрсальны характар. Яно паўставала ў далёкай Амэрыцы, але не адчуваецца ў ім тугі й настальгіі, якія характэрныя многім эміграцыйным творам, таму што ня імгненным уражаньнем пакліканыя яны да жыцьця, а глыбокім роздумам, разуменьнем нашага народу».